


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

7 ЛІПЕНЯ 2000г. № 27/4059 КОШТ 95 РУБ.



**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2000 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 400 рублёў, на квартал — 1 200 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — 1 250 рублёў, на квартал — 3 750 рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Салодкая лексіка лета.* *Фота Юрыя ЗАХАРАВА.*



ЧАСАПІС

## Як нас рэкламуюць швейцарцы

**СЕННЯ, 7 ЛІПЕНЯ, У КАЗАЧНА ПРЫГОЖЫМ БАРОЧНЫМ ГАРАДКУ САЛАТУРНЕ АДКРЫВАЕЦЦА X МІЖНАРОДНЫ ОПЕРНЫ ФЕСТЫВАЛЬ.**

**Юбілей свайго "дзіцяці" заснавальнік, нязменны прэзідэнт і ўласнік фестывалю Дзіна Арычы абстаўляе з асаблівым размахам. Пад агульнай "шапкай" "Classic Openair Solothurn" ладкуюцца ажно дзве мастацкія падзеі: традыцыйная дэкада панавання класічнай оперы зменіцца святам музыкі барока (прыемна, што ў культурную праграму фестывалю ўключана і выстава жывапісу беларускіх мастакоў з калекцыі Арычы). Для ўдзелу ў спектаклях запрошана рэкордная колькасць оперных зорак. Вось некалькі імёнаў: легендарная вагнераўская і пучыніеўская спявачка Гвінет Джонс, адзін з найбольш яркіх сучасных "моцных" тэнараў Крысціян Ёхансан, лірычны тэнар Сальваторэ Фізікела, што амаль не мае роўных у стылі бельканта, "моцартыянцы" тэнар Раберта Сака і барытон Кары Персан, уладальнік аксамітнага "чорнага" баса Паата Бурчуладзе. І за пультам будзе таксама сусветная зорка першай велічыні — ужо знаёмы мінчукам аўстрыец Ральф Вайкерт.**

**Але ж усяму асновай будзе Нацыянальны тэатр оперы Беларусі. Менавіта ён пакажа напаўканцэртныя ўвасабленні "Набука", "Севільскага цырульніка", "Кармэн" "Травіяты", "Дона Жуана" і "Турандот" (дзве апошнія оперы і пастаўлены па заказе Арычы). Выступленне ў антуражы такога юбілею можна было б лічыць за гонар нават у тым выпадку, калі б сусветныя зоркі пакінулі для нашых салістаў толькі партыі другога плана. Але ж, на шчасце, і на долю беларускіх спевакоў выпадае гэтым разам непараўнальна больш галоўных партый, чым было падчас мінулых дзвюх вандровак у Салатурн. Тамара Глаголева двойчы выканае сваю каронную партыю Абігаіль ды яшчэ Донну Анну, Юрый Бастрыкаў пакажа свайго Набука, Алег Мельнікаў — Захарыю і Цімура. Вікторыя Курбацкая, што так спадабалася салатурнцам у невялікіх партыях, сёлета мае шанц цалкам раскрыцца ў вобразах Віялеты і Лю. Гэтаксама Таццяна Варапай ды Васіль Кавальчук — ім даверaны вядучыя ролі Кармэн і Дона Базіліё. Сяргей Драбышэўскі будзе Альмавівам у "Севільскім цырульніку", дэбютантка фестывалю Таццяна Траццяк — Разінай і Царлінай, Таццяна Цівунова — Эльвірай. Непараўнальны Дон Бартала — Віктар Чарнабаеў і ў Швейцарыі з'явіцца ва ўлюбёным камічным вобразе. Ажно ў чатырох увасабленнях (Фігара, Дона Жуана, Эскамільё, Жоржа Жэрмона) убачаць на фестывалі Уладзіміра Пятрова.**

**Усю гэту і шмат іншай інфармацыі я вычытваю ў раскошным юбілейным фестывальным даведніку, які, між іншым, адкрываецца прывітальным словам Прэзідэнта Швейцарскай федэрацыі. Гартаю старонкі з "белай" зайздрасцю (паліграфія такога ўзроўню доўга была нам не па кішэні!), з радасцю за нашых і з цёплым пачуццём да Дзіна Арычы. Сяргею Картэсу, Ніне Ламановіч, Вячаславу Чарнуху (на адным з двух паказаў "Севільскага цырульніка" ён зменіць Р. Вайкерта) і кожнаму салісту прысвечаны асобныя артыкульчык з партрэтам. Ну, зразумела, факталогію даў наш тэатр, але ж як умела і эфектна выкарысталі швейцарцы для рэкламы беларусаў іх мінулы салатурнскі вопыт! Напрыклад, даведка пра Алега Мельнікава пачынаецца так: "Партыя Пімена ў "Барысе Гадунове" дазволіла ўладальніку экспрэсіўнага баса стаць фаварытам публікі ў Салатурне". Пра Юрыя Бастрыкава чытаем: "Да яго ўлюбёных партый у операх Пучыні належаць Шарплес і найперш Скарпія, у якой спявак зрабіў фурор у Салатурне". У размешчаных побач даведках пра Вікторыю Курбацкую і Уладзіміра Пятрова сказана, што іх поспех на фестывалі стаўся прычынай запрашэння абодвух на канцэрт у нямецкі горад Золінген. А вось — пра Глаголеву: "Швейцарская прэса пісала пасля яе выхаду ў вобразе Таццяны, што ад голасу і спявання гэтай першакласнай інтэрпрэтатаркі прабягае мароз па скуры".**

**Швейцарцы цёплa і зычліва пішуць пра кожнага з гасцей. Але, мабыць, яшчэ больш уражвае заключны раздзел даведніка — хроніка 10 гадоў фестывалю ў Салатурне пад загалоўкам "Спявачкі і спевакі пішуць оперную гісторыю". Сярод мноства здымкаў зорак вока вылучае прыгожую групу з трох чалавек. Подпіс: "Баль-маскарад" на "Classic Openair" Францiска Арайса, Тамара Глаголева і Юрый Бастрыкаў выклікалі бурную авацыю". А вось і яшчэ наша фота (хор і салісты выходзяць на паклон) з выразнай тэкстоўкай: "Ніна Ламановіч святкуе трыумф са сваім хорам". Апошняя старонка гэтага маляўнічага выдання зноў змяшчае партрэт Сяргея Картэса, якога абвяшчаюць у недалёкай будучыні прадстаўнікам у Салатурне як кампазітара, дуэт куміра публікі швейцаркі Наэмі Надэльман і Сальваторэ Фізікела на фоне нашага мужчынскага хору, а яшчэ — абліччы зорак Салатурна: Уладзімір Пятроў, Тамара Глаголева, Алег Мельнікаў, а паміж імі — Гвінет Джонс, Крыс Мерыт, Наэмі Надэльман. Каментары залішнія, ці не праўда?**

**Алена САЛАМАХА**

ПАДЗЕІ

# Звіняць мячы харалужныя

Цікавая падзея адбылася 24-25 чэрвеня ў колішняй беларускай першасталіцы — слаўным горадзе Навагрудку. Горад нібыта памаладзеў на некалькі стагоддзяў, вярнуўся ў сярэднявечча. Паўсюль былі відаць ваяры з мячамі, дзідамі і арбалетамі. А побач прыгожымі павамі праплывалі паненкі, убраныя ў адмысловыя дзявочыя строі.

Такога, мяркую, у новым часе Беларусь яшчэ не бачыла. Ды гэтае вяртанне мінулага ў сучаснае не з'явілася чымсьці цалкам выпадковым. Бачыцца тут заканамерны працяг нястомнай працы руплівых даследчыкаў мінуўшчыны, ды выдаўцоў, у выніку чаго зміарнелая гістарычная ніва беларушчыны за апошняе дзесяцігоддзе папоўнілася дзесяткамі сапраўды цікавых і значных кніг, частка якіх, праўда, была напісана яшчэ на пачатку стагоддзя, у шчодрыя на здабыткі 20-я гады. Ды пакульткі тут гутарка пра Навагрудак, то найперш трэба сказаць шчырае слова ўдзячнасці волату духу Міколу Ермаловічу, які зачасна назаўжды развітаўся з намі гэтым летам. Але напісанае застаецца. Ягоная "Старажытная Беларусь" — магутны чыннік нацыянальнай свядомасці, чараўзейны гаючы лек, які вяртае з забыцця **нам нашае**, набліжае і ўвідавочвае тое, што дзеялася тут шмат стагоддзяў назад. А быў жа час, калі мы, народжаныя на Навагрудчыне, нават не падазравалі, на якой зямлі жывём і чым маем ганарыцца. Ды адкуль было ведаць, калі настаўнікі гісторыі старанна дамагаліся, каб мы на памяць ведалі ўсё, што было звязана з партыйна-камуністычнымі з'ездамі: калі і дзе яны адбываліся, колькі дэлегатаў прысутнічала і якія "лёсаносныя" рашэнні былі прыняты ці то ў залатагаловай Маскве, ці следам тут, у Мінску. Расказвалі, вядома, і пра даўно мінулыя часы, пра Месапатамію і Егіпет, пра Ноўгарад і Разань, але маўчалі пра тое, што дзеялася на зямлі, на якой мы жылі, пра Навагрудак, адкуль запачаткавалася магутная дзяржава, межы якое ў лепшыя часы сягалі ад Балтыйскага да Чорнага мора. Карацей, настаўнікі-манкурты выхоўвалі дзяцей-манкуртаў. І доўжылася такое стагоддзямі, ад часу, калі Вялікае княства Літоўскае (чытай Беларусь) страціла самастойнасць, а з ёю і годнасць, і апынулася на задворках гісторыі. І толькі на пачатку XX стагоддзя нарэшце і для нас, беларусаў, выбліснула святло ў канцы такога доўгага і такога змрочнага тунеля...

Пра тое, што мы сёння ўжо не манкурты, а народ, які няхай сабе і пакутліва, праз хібы, патырчакі і перашкоды, але ўсё ж няўхільна набліжаецца да свайго нацыянальнага самаўсведамлення — засведчыла згаданая вышэй падзея. Яе афіцыйная назва — "Фэст сярэднявечнай культуры "Навагрудак 2000".

Свята доўжылася два дні, хоць, як на маё разуменне, можна было ўкласціся і ў адзін, і было запоўнена рознымі мерапрыемствамі, так ці, іначай прымеркаванымі да рэканструкцыі падзей і духу часу мінулых, але апагеем усёй імпрэзы стала інсцэніроўка бітвы 1314 года на Замкавай гары.

Звесткі ў гістарычнай літаратуры пра гэтую падзею вельмі скупыя. Адгортваем 5-ы том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", значная частка якога прысвечана Навагрудку, і чытаем: "На Н. неаднаразова нападалі татары і іх саюзнікі — дружыны галіцка-валынскіх князёў у 1250-я г., 1274, 1276, 1277, а потым крыжакі ў 1314, 1321, 1341, 1390, 1394". За гэтымі датамі — слава перамог і горыч паражэнняў, узлёты і падзенні чалавечага духу, аднак пра тое, што гэта былі за бітвы і хто браў у іх удзел — ні слова...

Значна цікавейшыя і багацейшыя звесткі пра той засмужаны далеччу час знаходзім у князе "Памяць", прысвечанай Навагрудскаму раёну: "У час панавання Тройдзена (1270-1282) літоўцы і жыхары беларускага Панямоння канчаткова адстаялі сваю незалежнасць ад татараў і іх паўднёва-рускіх сатэлітаў. Пазней яны гэтак жа сумесна супрацьстаялі крыжакам Тэўтонскага ордэна, набегі якіх з канца XIII ст. пачалі дасягаць беларускага Панямоння, а ў 1314 г. тэўтонцамі была ўчынена аблога Ноўгарадка (23). У баях гартавалася моц Літоўска-Беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, і невыпадкова, што Ноўгарадак стаў адным з галоўных палітычных цэнтраў гэтай дзяржавы".

Аднак найбольш цікавым, увасобленым у дзеях канкрэтных гістарычных асоб, уяўляецца мне інтэрпрэтацыя тых падзей ва ўжо згаданай вышэй кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды": "У 1314 годзе крыжакі нечакана рушылі на Новагародак, узялі яго і спалілі, а пасля сталі штурмаваць замак. І вось тут упершыню вызначыўся выдатны беларускі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец Давыд Гарадзенскі. Гэта быў чалавек, надзелены незвычайнай энергіяй, прадпрымальнасцю і вайсковымі ведамі, таму карыстаўся высокай пашанай і займаў пасля вялікага князя першае месца ў дзяржаве. Нездарма ж пасля Гедымін аддаў за яго замуж адну са сваіх дачок. Будучы гарадзенскім старастам, ён займаў адно з ключавых месц у абароне дзяржавы з боку Мазовіі і Тэўтонскага ордэна.

Такім чынам палкаводчы талент Давыда Гарадзенскага ўпершыню яскрава выявіўся пры абароне Новагародка ў 1314 г., калі ён са сваім войскам з'явіўся на выручку крэпасці, якую аблажылі крыжакі. Ён аваладаў іх лагерам, перабіў у ім варту, захапіў коней і харчовыя прыпасы. Крыжакі вымушаны былі адступаць, але на зваротным шляху яны не знайшлі ў пэўных месцах сваіх складаў з правіянтам, бо яны былі загадзя разбураны Давыдам. Крыжацкае войска, церпячы ад голаду, рассыпалася і амаль загінула ў непраходных балотах".

Спадзяюся, чытач адчуў і зразумеў, які ўдзячны, у тым ліку і для кінематографа, гістарычны матэрыял захаваны за гэтымі палетапіснаму сціслымі, але напоўненымі значным для існавання і выжывання народа сэнсам радкамі. Тое, што арганізатары "Фэста сярэднявечнай культуры" звярнуліся менавіта да гэтага "эпізода" нашай надзвычай багатай і слаўнай у старажытнасці гісторыі, заслугоўвае пахвалы. Але тут жа мушу зрабіць ім пэўныя закіды, бо, мяркую, выкарыстаны факты мінуўшчыны далёка не па поўніцу...

Хто тут галоўны герой? Безумоўна, Давыд Гарадзенскі, адна з самых вызначальных і сімпатычных постацяў беларускай гісторыі, асоба пасля Полацкага Усяслава Чарадзея, бадай, самая легендарная. Але, як ні дзіўна, Вялікага нацыянальнага ваяра гледачы падчас інсцэніроўкі бітвы 1314 года так і не пабачылі. На першым плане ўвесь час быў кіраўнік аб'яднаных сіл прышэльцаў, які адначасова выконваў і ролю вядучага-каментатара ўсіх падзей. Гэта чалавек не тутэйшы, запрошаны на правядзенне імпрэзы з Санкт-Пецярбурга. І я не ўпэўнены, што ён выдатна ведае нашу гісторыю, што чытаў таго ж Міколу Ермаловіча. Казаць пра нейкі беларускі патрыятызм, які тут сам сабой вынікаў, проста няма ніякіх падстаў. Даводзілася толькі пацісакаць плячыма, калі з яго вуснаў раз за разам, нібы знарок падкрэслена, гучала, што тут, у Новагародку, супольныя руска-літоўскія войскі нанеслі паражэнне Тэўтонскаму ордэну разам з яго саюзнікамі. Можна толькі здагадвацца, што мелася на ўвазе пад "рускімі" войскамі і адкуль яны тут узяліся... Ну а войскі праўдзіва беларускія, той жа Давыд Гарадзенскі?.. Пра іх чамусьці нават і не згадвалася... Між тым няцяжка ўявіць, які б эфект мела з'яўленне славутага беларускага палкаводца на кані і які высокі патрыятычны сэнс можна было б укласці ў ягоныя вусны...

З іншага "хібнага" ўвасаблення хачу адзначыць зашмат бутафорыі, якую, дарэчы, не толькі не хавалі, а нібы знарок дэманстравалі. Асабліва назалялі постаць нейкага нягеглага трубача, які, нібы малады певень, у якога толькі што пачаў прарэзвацца голас, спрабаваў пратрубіць ці то заклік на штурм, ці то сігнал адступлення, але ўсё гэта на піянерскім горне і пры недасканалым увасабленні гучала камічна, і нічога, апрача ўсмешак і раздражнення ў гледачоў не выклікала...

Ды не будзем забывацца, што такое ладзілася ў Беларусі ўпершыню. Я пацікавіўся думкай Ігара Міхно, таксама аднаго з асноўных арганізатараў фэсту. Ён, спаслаўшыся на сваю вялікую занятасць, коратка ўцаніў усю імпрэзу на выдатна. Але такая эйфарыя, мабыць, вынікае ад таго, што яму няма з чым параўноўваць. А мае крытычныя закіды, бадай, вынікаюць з таго, што давялося быць сведкам падобных мерапрыемстваў у Чэхіі, дзе традыцыі рыцарскіх турніраў, а таксама інсцэніроўкі бітваў былі выдатна распрацаваны і ў камуністычныя часы. Там усё было прадумана да малых драбніц і глядач пераносіўся ў сярэднявечча, глядзеў з захапленнем, трывогай і радасцю, асуджаў "чужых" і ўслаўляў "сваіх". Карацей, у нейкім сэнсе паводзіў сябе так, як гарачыя заўзятары на футбольных трыбунах...

Такі момант на Навагрудскім фэсце адбыўся тады, калі нашыя ваяры адбілі ад сцен замка крыжацкую навалу і самі перайшлі ў наступ. Пачалася сапраўдная сеча, звонам мячоў харалужных абудзілася навагрудская прастора, і шматтысячны натоўп у зладкаваным парыве выдыхнуў кліч веры і надзеі: "Жыве Беларусь!"

У заключэнне хацелася б добрым словам адзначыць тое, што ініцыятывы "нізоў" па наладжванні "фэсту" падтрымалі "вярхі" ў асобе новага старшыні райвыканкама сп. Ліса. З гэтым чалавекам пакуль што пазнаёміцца не выпадала, але прыемна было яго бачыць прысутным на адкрыцці выставы ўраджэнца Навагрудчыны Кастуся Качана ў сталічным Палацы мастацтваў, і асабліва ў апошнім выпадку, на гэтым свяце агульнанацыянальнага абсягу, якое напэўна што не адбылося б без спрыяння і дзейснай падтрымкі раённай адміністрацыі. Праўда, у Аргкамітэт свята зусім было б не лішнім увесці такіх на сёння вядомых, а то і славутых навагрудцаў, якія жывуць у Мінску, Гародні, а то і іншых гарадах, як гісторык, акадэмік Міхась Касцюк, глыбокі знаўца старажытнасці Вячаслаў Чамярыцкі, доктар філасофіі Уладзімір Конан і г. д.

І яшчэ адна для мяне надзвычай прыемная навіна: я за два дні не пабачыў на свяце ніводнага п'янага. З улікам таго, што алкагольная пошасць усё больш агідна паралізуе творчыя і фізічныя сілы нацыі, гэта добры знак, якімі традыцыямі, якімі дзействамі мы можам ажывіць і аздаровіць народ, даць яму сілу і веру ў сябе, у сваю будучыню. Бачачы і ўсведамляючы такое, сапраўды верыш, што Беларусь і яе народ акрыяюць ад паняверкі, здранцвення і ўрэшце зоймуць "свой пачэсны пасад між народамі", які мелі ў сівой даўніне.

**Яўген ЛЕЦКА**

ПОШТА

# У назвах вёсак — нашы карані

Мне давялося часта бываць у Круглянскім раёне, а ў вайну нават жыць там з паўгода ў вёсцы Ражкі. Мясцовыя жыхары ніколі не ўжывалі найменне "Круглае". Яны ўсе без выключэння гаварылі тады: "Пайшоў у Круглю", "Быў у Круглі". Тое ж заўважыў і пісьменнік Фёдар Янкоўскі, які хадзіў партызанскімі сцежкамі Кругляншчыны. Дарэчы, "Кругляншчына", "круглянцы" — гэтыя словы ўтвораны ад "Круглі". А калі б пайшло ўсё ад назвы "Круглае", то трэба гаварыць так: "Круглаўшчына", "круглаўцы".

Я закончыў пачатковую школу, да вайны яшчэ, у вёсцы Радзішана Шклоўскага раёна. І ўсе чатыры гады вучобы ў школьных сшытках пісаў на вокладцы "Радзішанская школа". У пасведчанні аб нараджэнні таксама пацверджана, што я родам з вёскі Радзішана. Тое ж самае і ў пашпарце. А сёння ў даведніку назваў вёсак, у дакументах раённых устаноў такой вёскі няма. Замест яе існуе вёска Радзішына: "шана", перацвралася ў "шыну". Суседнюю вёску Ордаць у нас заўсёды звалі "Вордаць", а вёску Акунёўка — "Вокунеўка".

У Краснапольскім раёне з даўніх часоў была вёска Высокі Барок (у ёй нарадзіўся паэт Аляксей Пысін). Назва пайшла ад лесу, што побач з вёскай, зваўся ён Высокі Бор — там раслі гонкія сосны. Калі ж утварылі ў вёсцы сельсавет, і справаводства выканкам распачаў весці на рускай мове, то вёску называлі ўжо інакш, па-руску — "Высокий Борок", (зноў жа, назва ад лесу), а сельсавет — "Высокоборский". І затым гэтае "о", як з калькі, пераклалі на беларускую мову і сталі называць вёску "Высокі Борак". Скалечылі назву. Была і прыпеўка:

*Заспяваю песню я*
*Галасоў на сорак.*
*І ляці ты, песня,*
*На Высокі Борак.*

Вядома ж, тут "Борак" толькі для рыфмы. У паэзіі такое магчыма. Паэт Пысін вышукаў карані назвы сваёй вёскі і заўсёды пісаў — "Высокі Барок". Аляксей Васільевіч лічыў, што няправільна называюць у Хоцімскім раёне вёску Трасціно. "Гэта на нямецкі лад", — гаварыў ён. Правільна, па-беларуску — "Трасціна", з націскам на "і".

Тое ж самае і з назвай вёскі Леніна ў Горацкім раёне. У пераважнай большасці людзей найменне гучыць так: "Леніно", з націскам на нямецкі лад. Горш за ўсё, што гэтая памылка ўсё часцей трапляе на радыё, на старонкі газет.

Аляксей Пысін не мог спакойна праходзіць міма такой непісьменнасці. У Магілёве быў пасёлак Машэкаўка (цяпер гэта мікрараён "Юбілейный"). Засталася вуліца Машэкаўская. Захаваліся гара Машэкі і Машэкаўская могілкі. Але гараджане, тыя, якія абыякавыя да каранёў сваіх і краязнаўча неадукаваныя, часцей гавораць так: "Мышакоўка", "Мышакоўская". Тады і гару, на якой па легендзе жыў волат Машэка, трэба было б назваць гарой нейкага "Мышакі" (ад слова "мыш"). Паэт мусіў напісаць у вершы так:

***Мыш хвосцікам махнула —***
***І волата няма.***

На маю думку, трэба працягваць работу па ўдакладненні назваў вёсак, паселішчаў, урочышчаў, па захаванні тых найменняў, якія знікаюць. Назвы гэтыя — нашы гістарычныя, геаграфічныя і краязнаўчыя карані.

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ, краязнаўца**

*г. Магілёў*

КАНГРЭС

# Куды ідуць беларусы?

*У аснове артыкула Л. Уладыкоўскай-Канаплянік — яе даклад на пленарным пасяджэнні III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Кангрэс адбыўся 21—25 мая гэтага года, пра яго паведамляў ужо наш штотыднёвік.*

*Кульмінацыяй цыкла навуковых канферэнцый, аб'яднаных "шапкаю" кангрэса, былі справаздачна-перавыбарчыя сходы МАБ і Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў нашай краіны. Прэзідэнтам МАБ на трэці тэрмін выбраны наш калега прафесар Адам Мальдзіс. Ягонымі клопатамі стваралася ў 1991 годзе, устояла ў нялёгкую апошнюю "пяцігодку", кансалідавалася грамадскае аб'яднанне беларусістаў — навукоўцаў і асветнікаў 24-х краін свету, творчай і арганізацыйнай базай якога ад пачатку быў і застаўся Нацыянальны навукова-асветны цэнтр (ННАЦ) імя Ф. Скарыны.*

*Наш кангрэс супаў з 2000-годдзем хрысціянства, сімвалічна быў прысвечаны шматвяковай хрысціянскай цывілізацыі. Мабыць, гэтыя абставіны, а таксама імкненне арганізатараў міжнароднага форуму да кансалідацыі і добрага сумоўя людзей розных светапоглядаў былі прычынай талерантнай памяркоўнасці суразмоўцаў: бальшыня іх амаль што абыйшла вострыя вуглы сённяшніх грамадска-палітычных і моўна-культурных супярэчнасцяў у Беларусі. Зрэшты, цяпер яшчэ не ўсё відаць, бо нельга ахапіць і ацаніць працы цэлай мазаікі секцый і "круглых сталоў". Ужо на пленарным сходзе прагучаў праўдзівы аналіз крызіснага стану беларускай мовы і культуры за апошнюю "пяцігодку". Непакой і трывогу беларускай нацыянальнай эліты "за краіну радзімую" выпала сказаць дырэктару Цэнтра імя Ф. Скарыны невыпадкова. Бо гэта нашае наканаванне і нашая, калі хочаце, хрысціянская місія: казаць праўду, якой бы горкай яна ні была. А праўда такая: беларусы, якія жывуць у полі прыцягнення роднай мовы і сваёй культурнай традыцыі, адчуваюць сябе ў сённяшняй Беларусі няпрошанымі гасцямі — эмігрантамі.*

*У сваім уступным слове спынюся на тым універсальным законе эканоміі энергіі і рэсурсаў, які ўпамінаецца ў дакладзе. Мае равеснікі яшчэ памятаюць, як "пры саветах з бальшавікамі" здавалі экзамены па марксізму-ленінізму, сядзелі за нудным опусам У. Леніна "Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм". Але там ёсць цікавыя факты. Маю на ўвазе нападкі Леніна на кнігу нямецкага прафесара Р. Авенарыуса "Філасофія як мысленне пра сусвет адпаведна прынцыпу найменшай траты сілы" (1876). Філасоф Р. Авенарыус і фізік Э. Мах ("махізм", паводле Леніна) рыхтавалі ліберальна-прагматычную навуку, для якой маюць значэнне вынік і карысць, а не метафізічныя "субстанцыі" накшталт нейкіх там матэрый, свядомасці, базісу і надбудовы.*

*Вераготна ў сферы духоўных каштоўнасцяў яны памыліліся, як пазней трагічна памыляўся тэарэтык "новага мастацтва" Казімір Малевіч, прыкладваючы мерку гэтага закона да мастацкай творчасці. Бо высокае мастацтва, літаратура, вялікая навука і элітарная культура — гэта неэканомная трата не толькі часу, сілы, але і ўласнага жыцця. Затое ў эканоміцы і штодзённым грамадскім жыцці прынцып эканоміі сілы і энергіі дзейнічае незалежна ад добрых пажаданняў. Трагічны прыклад: ператварэнне "законнага" руска-беларускага двухмоўя ў практычнае ("эканамічнае!") псеўдарускае аднамоўе ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця за выключэннем элітарных сфераў культуры — пераканаўчы доказ гэтага закона.*

*Выснова: спачатку "саветы" адбіралі ад Беларусі беларускіх пісьменнікаў; а цяпер ад літаратуры адлучаюць беларускіх чытачоў. І не толькі гэта: ад народа адбіраюць душу — мову і нацыянальную традыцыю. Паўстае спрадвечнае "славянскае" пытанне: куды ісці і што рабіць? На яго і за яго прыйдзецца адказваць не толькі беларусістам.*

**Уладзімір КОНАН**

# Зірнем праўдзе ў вочы...

## НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ І РОЛЯ СКАРЫНАЎСКАГА ЦЭНТРА

Сённяшні стан беларускай нацыянальнай культуры можа быць вызначаны як крызісны. Крызіс выяўляецца ў значнай адлучанасці ад яе масавага грамадскага быцця, яе шырокай незапатрабаванасцю філасофіяй і навукай, урэшце, у няўключанасці масавага этнічнага беларуса ў кантэкст нацыянальнай культуры.

Такая нацыянальная нявырашанасць у беларускай сітуацыі рэзка ўзмацняе глабальныя духоўна-культурныя крызісныя з'явы, што выяўляюцца ў пастаянным працэсе зніжэння інтэлектуалізму на ўсіх узроўнях масмедыя, шырокім тыражаванні бездухоўнага зомбі як станоўчага героя, працягу атэістычнай традыцыі, адлучэння школы ад царквы, а па сутнасці ад маральна-этычнага выхавання. Духоўны змест культуры элітарнай усё больш страчваецца для чалавека масавага. Ідэалы сучаснага беларускага грамадства вельмі размытыя, нявызначаныя, што звязана з ідэалагічным вакуумам пасля краху матэрыялістычна-атэістычнага светапогляду, дзеючай сістэмай затушоўвання нацыянальнай праблемы замест яе вырашэння, а таксама навязваннем чужых беларускай ментальнасці, а таму штучных і неэфектыўных, ідэалаў. Важна выбраць і прапагандаваць найбольш адпаведныя нашай культурна-гістарычнай традыцыі ідэалы, рэальныя і эфектыўныя для выхаду грамадства на больш высокі ўзровень духоўнасці і цывілізаванага жыцця. Апора на традыцыю дазваляе захаваць пераемнасць, гартуе нацыянальную волю, гарантуе цвёрдую сістэму духоўна-маральных каардынат.

Духоўна-ідэйны вакуум, у значнай ступені выкліканы адарванасцю масавага этнічнага беларуса ад уласнай традыцыі, вельмі небяспечны, бо парушае цэласнасць асобы, зніжае жыццядзейнасць грамадства, выклікае масавы песімізм. Асабліва атрутны ён для моладзі, дзяцей, у якіх яшчэ не выпрацаваны імунітэт да цынізму, пошласці, культу сілы, калі пад увагу бярэцца толькі неабходнасць зважаць на мацнейшага, што па сутнасці адпавядае фашысцкай канцэпцыі жыцця. У адказе беларусаў на выклік уласнага лёсу і на глабальны выклік эпохі першым словам павінна быць слова досведу, шанавання сваёй існасці — гісторыі, культуры, мовы.

Чаму да гэтага часу мы не можам знайсці падмурак для кансалідацыі нацыі, для аб'яднання грамадства — расколатага, разгубленага, падзеленага? Не толькі таму, што, як паміж марозам белым і агнём, знаходзімся паміж Усходам і Захадам, не толькі з прычыны нашай драматычнай гістарычнай парадыгмы і яе вынікам — незвычайна нізкім для канца 20 ст. узроўнем нацыянальнай самасвядомасці і замарожанасцю нацыянальна-культурнай традыцыі. На ўзроўні масавай свядомасці і на дзяржаўным узроўні не сталі аксіёмамі дзве элементарныя рэчы:

1. Беларусь — не арганічны кампанент імперскай звышдзяржавы, якая ўзяла ў спадчыну арганізацыйныя і рэальны палітычны ўплыў імператываў таталітарнай дзяржавы, а еўрапейская краіна, закліканая знайсці адэкватнае месца ў супольнасці еўрапейскіх народаў.

2. Ідэяй, якая павінна выступіць кансалідуючай як для нацыі ў цэлым, так і для ўсіх суб'ектаў палітычнага і сацыякультурнага працэсу ў краіне, з'яўляецца ідэя захавання суверэнітэту як вышэйшай каштоўнасці.

Існаванне беларускай дзяржавы апраўдваецца старадаўняй культурнай парадыгмай, якая павінна не проста захавацца, але быць жывою, актуальнаю сёння, спраўджваць духоўнае развіццё кожнай асобы і грамадства ў цэлым. Без беларускай культуры і беларускай мовы, гэта значыць — мэтанакіраванай, паслядоўнай, сістэмнай яе падтрымкі дзяржава становіцца пустой юрыдычнай формай-фікцыяй, губляе ўнутраны сэнс і перастае існаваць як самастойная перспектыўная сацыяльная сістэма.

У той драматычнай сітуацыі, якая склалася ў беларускай нацыянальнай культуры, менш за ўсё вінаваты яе творцы — пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, дзеячы культуры наогул. Беларуская літаратура, літаратурная і навуковая распрацоўка роднае мовы, даследаванне беларускай культурнай традыцыі ў Беларусі не ніжэй, чым у іншых былых рэспубліках СССР. Па некаторых галінах навукі, напрыклад, па выпуску нацыянальнай энцыклапедычнай літаратуры, даследаванню народнай лексікі і роднае мовы, вывучэнню літаратуры і нацыянальнага фальклору, Беларусь абагнала іншыя краіны.

Крызіс нацыянальнай культуры складаўся даўно ў выніку паступовага адрыву дзвюх узаемазвязаных падсістэм культуры — сферы яе стварэння і сферы функцыянавання на дзяржаўна-ўпраўленчым і масавым грамадскім узроўнях. Гэта драма абумоўлена як гістарычным і палітыка-ідэалагічным фактарамі, так і стыхійным "рынкавым" працэсам выцяснення роднае мовы беларусаў з усіх сфераў дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Паколькі мова — знакава-сімвалічнае, духоўнае аблічча ўсёй культуры, нацыі, нацыянальнай гісторыі, то па-за нацыянальнай мовай не можа нармальна развівацца і функцыянаваць не толькі культура, але і чалавек, грамадства, дзяржава.

Прыняты ў БССР "Закон аб мовах у Беларускай ССР" (1990) вярнуў дзяржаўны статус беларускай мове, страчаны ў канцы XVII ст., аднаўлены ў гады афіцыйнай палітыкі беларусізацыі (1920-ыя гады) і замацаваны 22-м артыкулам Канстытуцыі БССР 1927 года. Але пазней, у 1930—1940-ыя гады яе дзяржаўнасць страчана ў выніку вынішчэння і падаўлення нацыянальна арыентаванай беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку тых грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў, якія ажыццяўлялі палітыку беларусізацыі. У 1930—1980-ыя гады руская мова ў БССР займала пануючае становішча, фактычна выконвала функцыі дзяржаўнай мовы. Беларуская мова, выцесненая з дзяржаўнага і грамадскага ўжытку, паступова даходзіла да той мяжы, за якой яна становішча амаль экзатычнай.

Ужо "Закон аб мовах у БССР" быў непаслядоўны, бо ў яго была ўнесена істотная папраўка: мовай "міжнацыянальных зносінаў" у краіне была абвешчана мова руская. Гэтая папраўка шырока выкарыстоўвалася для таго, каб ігнараваць дзяржаўны статус беларускай мовы, спасылаючыся на тэзіс аб "шматнацыянальным складзе насельніцтва Беларусі". Тут свядома альбо па няведанні блытаюць паняцці "нацыя" і "этнас", этнічнае паходжанне розных слаёў насельніцтва. Тым не менш, гэты закон дазволіў за некалькі гадоў істотна выправіць становішча з роднай мовай беларусаў, асабліва ў сферах народнай адукацыі, інфармацыі, часткова ў сферы сацыякультурнага абслугоўвання.

"Закон аб мовах у БССР" пры відавочнай яго непаслядоўнасці даваў магчымасць паступова за дзесяць гадоў, гэта значыць у 2000 годзе, наблізіць (толькі наблізіць, а не фактычна ўраўняць) статус беларускай мовы да фактычнага становішча рускай мовы ў Беларусі. У выніку рэферэндуму 1995 г. запрацаваў універсальны закон эканоміі энергіі і рэсурсаў: усе — ад вышэйшых чыноўнікаў да сельскай школы — "эканомяць" на роднай мове беларусаў. У шматлікіх дзяржаўных сферах, найперш ва ўстановах Міністэрства фінансаў, з якімі маюць справу ўсе грамадзяне, ужо нельга даць распіску і паставіць сваё імя на беларускай мове: фінансісты даўно забыліся пра яе існаванне, глядзяць на беларуса як на замежнага госця, які не ўмее "нормально, по-русски" запоўніць бланкі.

Справа не толькі ў "фінансах". Фрагменты беларускасці засталіся толькі ў сферы культуры, часткова — адукацыі і рэдка — гуманітарнай навукі. У выніку гэтага "аўтэнтычны беларус", грамадзянін нашай дзяржавы, які жыве ў полі прыцягнення беларускай мовы і беларускай культурнай традыцыі, адчувае сябе бездапаможным эмігрантам. Але справа не толькі ў парушэнні правоў грамадзян Беларусі. Яшчэ больш драматычная сітуацыя, калі ўсё грамадства існуе ў адрыве ад тысячагадовай нацыянальна-культурнай традыцыі. У выніку не выкарыстоўваецца той вялікі духоўна-творчы і маральна-выхаваўчы патэнцыял, які назапашаны гэтай традыцыяй, здадзенай сёння ў музеі, архівы, так сказаць — дэпанібаваны "на ўсялякі выпадак".

Праблема беларускай нацыянальнай культуры, яе ўсебаковага і стабільнага развіцця, паўнацэннага функцыянавання ў краіне і свеце не можа быць вырашана высілкамі асобных грамадскіх арганізацый, дзяржаўных устаноў і ведамстваў. У спецыфічных для Беларусі ўмовах на працягу двух стагоддзяў праводзілася татальная дэнацыяналізацыя на ўсіх узроўнях — праз дзяржаўныя ўстановы, школу, армію, сродкі масавай інфармацыі, а ў былым СССР — яшчэ і праз фарсіраваную індустрыялізацыю, гвалтоўную калектывізацыю, ліквідацыю самастойнага гаспадарлівага сялянства як класа, якое спрадвеку было этнічным ядром нацыі. У такіх умовах праблема экалогіі культуры, выжывання і развіцця нацыянальнай традыцыі можа быць вырашана толькі сродкамі мэтанакіраванай і доўгатэрміновай дзяржаўнай палітыкі і распрацаванай на дзяржаўным узроўні праграмы адраджэння беларускай нацыянальнай культуры.

Каб дасягнуць рэальнага раўнапраўнага становішча беларускай мовы і культуры з тым жаргонам вялікай рускай мовы, якім карыстаецца большасць грамадзян, можна ісці шляхам паступовых рэформаў. Тут мае значэнне і фактар прававы, які абавязвае, і фактар запатрабаванасці дзяржавай і адпаведна соцыумам, і фактар заахвочвання, падтрымкі, і нават фактар рэкламы, уплыву на масавую свядомасць праз стварэнне стэрэатыпаў станоўчага ўспрымання беларускага слова.

Калі беларуская культура будзе існаваць не толькі ў варыянце элітарнай, акадэмічнай, але масавай, з апорай на традыцыю, якая яшчэ павінна быць дасканала вывучана праз аднаўленне ўсіх сваіх забытых і выкінутых старонак, будзе наладжана моцная зваротная сувязь паміж носьбітамі і творцамі культуры, і адпаведна кожны будзе носьбітам і кожны — творцам.

Для гэтага спачатку неабходна зірнуць праўдзе ў вочы, вывучыць, прааналізаваць тое катастрафічнае становішча, у якім апынулася беларуская мова і тыя нашыя грамадзяне, якія жывуць у духоўным полі беларускай культуры. Цяперашнія шматлікія сацыялагічныя інстытуты і службы, дзяржаўныя і "незалежныя", ігнаруюць гэтую праблему, "не заўважаюць" яе. Трэба стварыць сваю, беларускую сацыялагічную службу.

Адным словам, ісці шляхам, мабыць, не лёгкім, але справядлівым: паступовага ўраўнавання магчымасцяў цяпер ужо беларускамоўнай меншасці ў краіне.

Вось тут і спатрэбіліся б паслугі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, іншых нацыянальных асяродкаў. Цэнтр як агульна-нацыянальны інстытут мог бы каардынаваць аб'ектыўныя даследаванні, у тым ліку сацыялагічныя, рэальнага становішча беларускай мовы і культуры ў краіне, інфармаваў бы ўрадавыя, дзяржаўныя установы і грамадскасць аб тых працэсах, якія адбываюцца ў гэтай сферы.

Сёння роля Скарынаўскага цэнтра як інстытута краіны мае як мінімум два значэнні. Першае — навукова-асветніцкае, калі аб'ектам даследавання з'яўляецца Беларусь, а папулярызуюцца яе духоўна-культурныя скарбы. Нацыянальна-культурная эліта працуе з грамадзянамі сваёй краіны і таксама замежжа. Цэнтр Скарыны — не проста унікальны энцыклапедычны беларускі асяродак, які распрацоўвае комплексныя міждысцыплінарныя навуковыя праблемы. Скарынаўскі цэнтр — гэта спроба фарміравання пазітыўнай беларускай самаацэнкі праз актуалізацыю нацыянальнай культурнай традыцыі, перадусім — інбелкультаўскай.

Другое значэнне — ідэалагічнае, якое вынікае з дзяржаўнага статуса цэнтра і непасрэднага яго супрацоўніцтва з міністэрствамі і ведамствамі, удзелу нацыянальна-культурнай эліты ў дзяржаўным кіраванні.

Такім чынам, Беларусі, каб вырашыць праблемы сацыяльна-ідэалагічную і духоўна-маральную, перш-наперш трэба вырашаць праблему, якую еўрапейскія нацыі ў пераважнай большасці вырашылі ўжо даўно. Праблему, якую праігнараваць усё роўна немагчыма, — нацыянальна-культурную. Тут апошняе слова — за агульнадзяржаўнай палітыкай.

**Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК**

## “90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі”

**Розныя навукова-практычныя канферэнцыі апошнім часам праводзяцца часта, што само па сабе не можа не радаваць, паколькі яны, як правіла, прысвячаюцца ці важным падзеям, юбілеям, ці закранаюць розныя аспекты нацыянальнай гісторыі. Тым больш**

90 ГАДОЎ ВІЦЕБСКАЙ ВУЧОНАЙ АРХІЎНАЙ КАМІСІІ

**прыемна, што матэрыялы гэтых мерапрыемстваў выдаюцца, а таму ёсць мажлівасць і тым, хто не прысутнічаў на пасяджэннях, пазнаёміцца з гаворкай на іх. Гэта тычыцца і канферэнцыі “90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі”, што праходзіла ў Віцебску 24 лістапада 1999 года, матэрыялы якой з’явіліся ў зборніку пад аднайменнай назвай (складальнікі В. Скалабан, В. Шарэнда, М. Шумейка), выпушчаным дзякуючы Дзяржаўнаму архіву Віцебскай вобласці, Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею, Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту дакументазнаўства і архіўнай справы і Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь. Як можна даведацца з матэрыялу загадчыка аддзела па архівах і справаводстве Віцебскага аблвыканкама М. Пішчулёнка, “стварэнне 90 гадоў назад у Віцебску вучонай навуковай камісіі не было выпадковым. Вядома, што менавіта тут у 60-я гады XIX ст. узнік першы гістарычны архіў на тэрыторыі Беларусі — Віцебскі архіў старажытных актаў, працай супрацоўнікаў якога падрыхтаваны і выдадзены зборнік дакументаў “Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы” ў 32-х тамах. Тут жылі і працавалі вядомыя археографы, гісторыкі, краязнаўцы А. П. Сапуноў, Д. І. Даўгяла, Б. Р. Брэжга, М. В. Мялешка і іншыя, хто ўнёс істотны ўклад у фарміраванне і развіццё арганізацыйных і тэарэтычных асноў айчыннага краязнаўства”. Дарэчы, з дзейнасцю некаторых рупліўцаў на ніве віцебскай даўніны можна пазнаёміцца з матэрыялаў канферэнцыі. У прыватнасці, саветнік БелНДІДАС, кандыдат гістарычных навук В. Скалабан усебакова разгледзеў такую тэму, як “Міхась Мялешка: віцебскія старонкі жыццяпісу”. Даўно і паспяхова вывучае гісторыю свайго краю краязнаўца, журналіст, старшыня Віцебскага краязнаўчага фонду імя А. Сапунова А. Падліпскі. З яго матэрыялу “Тры старшыні камісіі” можна даведацца пра тых, хто ўзначальваў гэтую навуковую арганізацыю. А. Падліпскі падрабязна расказвае пра В. Арсеннева, У. Кадыгробава і К. Ціхамірава. Кожны з іх з’яўляўся яркай, самабытнай асобай і зрабіў вельмі шмат па даследаванні мінуўшчыны. Каларытная постаць і першага старшыні камісіі В. Арсеннева. Яшчэ ў 15-гадовым узросце ён “прыступіў да збору звестак аб гісторыі і генеалогіі свайго роду”. Аб гэтым сведчыў у прадмове да кнігі В. Арсеннева “Род дваран Арсенневых”, што выйшла ў Туле ў 1903 годзе, калі яе аўтару споўнілася толькі 20 гадоў, выдавец М. Яблачкаў. Усяго ж В. Арсенеў “сабраў звесткі аб 670 мужчынскіх прадстаўніках свайго роду, 185 жонках іх і 237 жаночых”. Знаёмячыся з матэрыяламі канферэнцыі, атрымліваеш шмат цікавых звестак і з жыцця іншых навукоўцаў: “А. П. Сапуноў і Віцебская вучоная архіўная камісія” Л. Хмяльніцкай, “Агляд дакументаў архіву А. П. Сапунова ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі” В. Кучарэнкі, “Археаграфічная дзейнасць М. В. Доўнар-Запольскага” С. Міхальчанкі, “Лёс калекцыі В. П. Федаровіча” І. Абрамавай, “Пошукава-даследчая работа музея Браніслава Эпімах-Шыпілы” А. Красновай, “Турыстычна-краязнаўчы паход да месца былога маёнтка А. П. Сапунова “Кахоўка” М. Півавара... А ўвогуле, з якім матэрыялам ні пазнаёмішся, пачэрпнеш нямала карыснай інфармацыі, бо выступалі на канферэнцыі людзі, па-сапраўднаму захопленыя навуковым пошукам, тыя, хто робіць вельмі шмат у галіне краязнаўства: “Віцебская вучоная архіўная камісія: гісторыя, дакументы” Л. Замалінай, “Палявая, камеральная і эдыцыйная археаграфія ў дзейнасці Віцебскай навуковай архіўнай камісіі” М. Шумейкі, “Археалагічная калекцыя ВВАК у фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея” Н. Шаркоўскай, “Гісторыя рэлігійных канфесій г. Полацка ў фондах занальнага дзяржархіва ў г. Полацку (1918—1954 гг.)” Т. Барэйкі...**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Мысленне нацыяй

Кніга Аляксея Каўкі “Будам жыць! Пра тое самае” — яскравы ўзор “нацыянальнай” аналітыкі альбо мыслення нацыяй.

Сама ўжо назва “Будам жыць!...” досыць невыпадковая. Энергетыка дыялектнага слова “будам” больш моцная, валявая, ёмкая, чымсьці слова “будзем”. Гэта слова-імпульс, пасіянарны штуршок да дзеяння. Ды і само афармленне вокладкі сімвалічнае: смерць магутных дрэў, якіх пазбаўляюць каранёў, чорнае сонца падымаецца да вершалін, на чорным фоне — выратавальныя белыя літары: “Будам жыць!..” Знакі веры, яе сімвалы і спрадвечныя сігналы.

“Будам жыць!” — значыць пераадолець інерцыю знешняга свету. Беларусь павінна стаць на шлях індывідуальнага развіцця, выкарыстоўваць увесь патэнцыял мысліцельнай і інтуітыўнай энергіі нацыі, які ў многім застаўся незапатрабаваным, калі “многія стагоддзі нараджаў ён (народ. — **З. С.**) для магутных суседзяў Касцюшак, Міцкевічаў, Дастаеўскіх... Але не мог навучыць сваіх дзяцей роднай мове і, стала быць, народнай духоўнасці і мудрасці”. Трэба аддаць належнае А. Каўку, ён не залічвае, як гэта хочацца часам нашай апантанай інтэлігенцыі, у беларусы тых, хто стаў чыннікам іншых ідэалогій. Пачытайце ўважліва “Кнігі польскага народа і пілігрымства” Міцкевіча альбо прарасейскую дактрынальную публіцыстыку Ф. Дастаеўскага, дык убачыце, якімі чыннікамі “беларускасці” былі абодва творцы; пытанне аб іх удзеле ў стварэнні беларускага шляху адразу ж адпадае. Істотна тое, што фактычна сталася, а не адкуль радавод ішоў. Беларусь для Ф. Дастаеўскага як ідэя не існавала, як і для А. Міцкевіча. І ўздыханні А. Міцкевіча па Літве ёсць смутак не па Беларусі, а па малой радзіме, як і ў кожнага з нас.

Уяўляе цікавасць пастаноўка А. Каўкам пытання аб “краёвасці” як нейкім эмбрыянальным стане літаратуры ў перыяд яе адраджэння. Стваральнікамі гэтай літаратуры (Я. Баршчэўскі, Я. Чачот, А. Рыпінскі, У. Сыракомля, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Каратынскі, А. Вярыга-Дарэўскі і інш.) былі людзі ўнутрана-раздвоеныя, для якіх сапраўдная нацыянальнасць была ўмоўнасцю. Іх патрыятызм быў беларускі, але існавала супярэчнасць паміж нацыянальна-духоўнай глебай і іншанацыянальнай формай яе выяўлення. Але і тут ужо заўважаўся рух “ад іншакультурнай перыферыйнасці, “акраіннасці” да ўласна-нацыянальнай засяроджанасці, да беларускага творчага сінтэзу”. Польскасць многіх з гэтых пісьменнікаў хутчэй за ўсё знешняя. Адчуваецца ўздзеянне глыбінных штуршкоў іх родавай, беларускай нацыянальнасці. Працэс закрануў і тых творцаў, хто выказваў свой “краёвы” патрыятызм выключна на польскай мове (Г. Лада-Заблоцкі, Ю. Ляскоўскі). Адразу паўстыхійна, а потым усё больш свядома імкнуліся яны пераадолець “польскасць” на ўзроўні як светапоглядным, так і літаратурна-мастацкім. І хоць гэта працэс замаруджаны, але ён незваротны. Яскравы прыклад — Я. Купала і Ф. Аляхновіч, якія пачалі свае першыя вопыты па-польску, але потым сталі класікамі беларускай літаратуры. Таму А. Каўка лічыць больш карэктным гаварыць не пра палякаў, а пра польскую традыцыю, польскую культуру ў беларускім адраджэнні. Беларуская літаратурная самасвядомасць выкрышталізоўвалася паступова, калі літаратура к зыходу XIX стагоддзя пераадольвае сваю этнакультурную раздвоенасць, моўную “двудомнасць”.

А. Каўка не аслеплены ружовым нацыянал-ідэалізмам. Ён рэальна ацэньвае сітуацыю і не праклінае расейшчыну, а шукае разумнага выхаду, яго надзея “трымаецца на глыбокай павазе да рускай ідэі, што адмаўляе рэлігію ўлады ў імя рэлігіі духу”. А. Каўка ў славутым “Пісьме да рускага сябра” спадзяецца, што з часам і “руская мова ў адносінах з беларускай мовай” знойдзе аптымальнае спалучэнне велічы і “велікадушнасці”. Даследчык раздзяляе высакароднасць рускага народа і імперскае самадурства “ісцінна расейскага “держиморды”.

Трэба сказаць, што нацыянальная аналітыка даследчыка сувымерная з рэлігійнай аксіялогіяй і не выходзіць за яе межы. А. Каўка верыць у народ, які застаўся верны свайму прызначэнню, хоць і выйшаў з працяглай “інквізітарскай лабараторыі духоўна надломленым”. Тут аўтар салідарызуецца з польскім публіцыстам Богданам Цывіньскім, які разважае: “Я не веру ў недахоп альбо слабасць палітычных імкненняў у народзе, які на працягу амаль васьмі стагоддзяў змог выстаяць перад русіфікацыяй і які канчаткова не страціў сваёй індывідуальнасці. На добры лад беларусаў ужо даўно не павінна было б быць. Але калі яны ёсць, значыць у гэтым яны рашуча зацікаўлены”. Пры ўсёй знешняй беларускай пасіўнасці і інертнасці народа нельга не заўважыць магутны зарад пасіянарнай энергіі, якая носіць патаемны, схаваны характар, але ён не знішчальны.

А. Каўка досыць мудра ацэньвае і пазіцыю маладых беларускіх дыскутантаў-крытыкаў, на думку якіх Адраджэнне застаецца літаратурным міфам, вынаходніцтвам беларускіх інтэлектуалаў — не матэрыялізаваным, не ўкаранёным ні ў паўсядзённым культурным жыцці, ні ў шырокай свядомасці грамадства. Такая думка мае грунт пад сабой, але яе нельга абсалютызаваць. Беларуская мова і беларускасць з’яўляюцца ў краіне чымсьці маргінальным пры вялікай перавазе іншамоўнай культуры, таму і да гэтай пары пераход ад этнакультуры да культуры нацыянальнай працягваецца. А. Каўка зазначае, што на бязрадасным фоне гістарычных страт і паражэнняў можна калі не прыняць, дык, ва ўсялякім выпадку, зразумець некаторую дзёрзкасць маладых. Таму і пытанне аб беларускім шляху, на думку мысляра, застаецца адкрытым, бо ён стаўся вельмі складаным, цяжкім і пакутлівым, як след не патлумачаным і да гэтай пары. Нездарма даследчык заяўляе аб тым, што яго асноўная метадалагічная ўстаноўка ў зададзеным накірунку будзе называцца “нацыяцэнтрысцкай”. Народ сам па сабе не бывае генератарам нацыянальнай ідэі, якую фарміруюць мысляры-інтэлігенты. Народ толькі захоўвае энергію нацыянальнага духу, ён свядома не будзе адстойваць нацыянальную ідэю як самадастатковасць. Знайсці ўзаемапаразуменне інтэлігенцыі і народа — галоўная задача беларускага шляху. Дагэтуль стаіць яна праблемай N 1 для нашага грамадства.

Архіважнай фігурай нацыянальнай ідэі з’яўляецца для аўтара Ф. Скарына, які ў айчыннай культуры развіў і ўзбагаціў творчую традыцыю злучэння рацыянальных ведаў і веры ў “Вышэйшы Абсалют”. Слушна гаворыць А. Каўка аб тым, што, на жаль, уласна-беларускі, “свядомасны” абсяг найслабей распрацаваны ў параўнанні з іншымі дзялянкамі скарыназнаўства. Занадтая беларуская сціпласць, а дакладней, зацяты нацыянальны нігілізм — асноўная перашкода для таго, каб надаць першаснае значэнне асобе Ф. Скарыны як нацыянальнаму ідэалу беларусаў, праз які народ пазнае сябе і сваё прызначэнне ў гісторыі. Скарынава творчасць — прыклад аптымізацыі канфесійнага і свецкага напрамкаў у выхаванні чалавека. Асабісты жыццяпіс нашага першадрукара пакінуў нашчадкам доказ этнакультурнага, нацыянальнага адзінства народу пры многасці веравызнанняў. Да Скарыны, як лічыць А. Каўка, узыходзіць дасюль не вырашаная праблема рэлігійна-нацыянальнага сінтэзу ў беларускай культуры, дзе поліканфесійны склад грамадства спрыяў бы росквіту нацыянальнай культуры і свядомасці беларусаў. Тым больш, што менавіта Скарына надаў звычайнаму гаваркому слову ў біблейным стылёвым кантэксце выключную меладыйную і эстэтычную выразнасць.

На прыкладзе Скарыны выразна відаць уласцівая беларусам непрыхільнасць да чагосьці аднаго як дагматычна ўсталяванага. Надалей гэта сталася асноўнай адзнакай гісторыі беларускага народа, на што звяртаў увагу І. Канчэўскі. Але гэта не азначае, як падаецца на першы погляд, беспрынцыпнасці поглядаў і няздольнасці да выбару, а хутчэй за ўсё гаворыць пра нейкую глыбінную прыкмету нацыі, якая імкнецца абнавіць свой дух праз розныя сферы і не можа быць аднанакіраванай у сваіх творчых і рэлігійных патэнцыях.

Славуты першадрукар, вандроўны гуманіст даказаў сваёй дзейнасцю, што перад намі не два светы — Усход і Захад, а “хутчэй два бакі аднаго кантынента, афарбаваныя ў розныя колеры, з шырокай паласой пасярэдзіне, у якой абедзве афарбоўкі зліваюцца і вытвараюць розныя пераходныя нюансы, з такімі ж самымі прамежкавымі разгалінаваннямі направа і налева, у розных напрамках і розных эпохах, што свабодна пераступаюць этнічныя і палітычныя межы” (А. Каўка падмацоўвае свае назіранні думкамі буйнога ўкраінскага вучонага і палітыка М. Грушэўскага).

Прымыкае да размовы пра Скарыну і артыкул пра М. Доўнар-Запольскага. Доўнар-Запольскі, як і Ф. Скарына, лічыў беларускі народ перш за ўсё па гістарычных і народна-бытавых традыцыях у вышэйшай ступені дэмакратычным, у той час як “польскі пачатак імкнуўся ўнесці ў Беларусь шляхецкую арыстакратычную рэспубліку, а маскоўскі — баярскую алігархію”. Абедзве дзяржавы выключалі дэмас, чым пакалечылі беларускі народны арганізм, навязваючы яму чужародныя сутнасці. Ужо сам Скарына абгрунтоўваў дэмакратызм праз ідэю “людзей простых паспалітых”, “дабра паспалітага”.

Найбольшы раздзел у кнізе прысвечаны постаці славутага айчыннага гісторыка Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, якога асабліва блізка ведаў А. Каўка. Фігура гэта унікальная ў нашай культуры. М. Улашчык лічыў, што для таго, каб быць сапраўдным гісторыкам, трэба “мець у запасе сарказму ці гумару. І, вядома, адвагі глядзець фактам у вочы”. Для гісторыка вышэй за ўсё павінна быць ісціна, якая не мае нацыянальнага характару. Таму навуковец павінен быць халоднабясстрасным у любым выпадку, якім бы самазабойным не быў факт для гісторыі нацыі. М. Улашчык лічыў, што “найлепшы з пісьменнікаў на гістарычныя тэмы У. Караткевіч, але й нават і ён не пазбег непатрэбнай паспешлівасці... Тут мала ведаць гісторыю, трэба перапакутаваць ёю, загартаваць на сэрцы свае веды”. Фантазія пісьменніка павінна сувымярацца з гістарычнай ісцінай, таму празаік не мае права на адвольнасць у абыходжанні з фактамі гісторыі. Дапушчальны момант ідэалізацыі, рамантызацыі гісторыі, але ёсць мяжа, за якой ужо адбываецца недарэчная гістарыясофія, калі суб’ектыўная воля мастака перавышае ісцінны стан падзей. Пісьменнік, што ўзяўся за гістарычную тэматыку, не проста празаік, а яшчэ і сумленны, дапытлівы гісторык, для якога ісціна вышэй нацыі. Для У. Караткевіча часам было наадварот, калі нацыя пераўзыходзіла ісціну, і яго рамантызм і суб’ектывізм дэфармаваў гістарычную факталогію.

М. Улашчык адзін з тых, хто вярнуў Беларусі ейную гісторыю; на Захадзе пасля Я. Карскага, як навейшы навуковец-гісторык, змусіў трактаваць Беларусь як асобную дзяржаву ў мінулым. Тым больш ён фактычна даказаў, што Вялікае княства Літоўскае стваралася сілай Наваградка, што ў гісторыі існаваў і ўласна-беларускі нацыянальна-дзяржаўны інтарэс, а беларуская супольнасць — паўнавартасны ўдзельнік гісторыка-цывілізацыйнага працэсу, а не маргінальная частка тае ці іншай суседняй дзяржавы. М. Улашчык, як слушна зазначае А. Каўка, выявіў сябе “творцам новай ідэальнай Беларусі — магутнае краіны Духу”. З яго прыходам у беларускую навуку глыбей пачала спасцігацца няабарачальнасць, незломнасць нашага адвечнага руху, званага Беларускім Адраджэннем. І А. Каўка дае сутнаснае вызначэнне яго фігуры — Адраджэнец. Адкрытая ім Беларусь была зразуметая і падтрыманая найбуйнейшымі расійскімі гісторыкамі: Беражковым і Дружыніным, Ціхаміравым і Грэкавым, Буганавым і Шмідтам. Паводле А. Каўкі, міжнацыянальная адрознасць і крэўнасць здольныя ў гарманічным спалучэнні даваць добры плён на палетку ўзаемнага духоўнага збліжэння, у прыватнасці расійска-беларускага. Праз гэтыя, не зусім даспадобы нашаму прарасійскаму нацыяналісту аналогіі, постаць М. Улашчыка ўзбуйняецца. Ён — вельмі назіральны і дапытлівы гісторык, які фактычна даказаў, што ў часы скасавання прыгоннага права ў Заходняй Беларусі не толькі дзікасці не было, але і спраўней ад цэнтра Расіі гаспадарка ішла. І, нягледзячы на такія вось факты, імперская высокая навука прызнала М. Улашчыка; хоць і не дала яму высокіх тытулаў і рангаў, але да яго, як да сумленнага гісторыка, заўсёды прыслухоўваліся.

А. Каўка прадставіў сапраўды вялікую постаць адраджэнца М. Улашчыка. Яму надоўга і амаль маланкава ўрэзаўся ў памяць прадсмяротны твар нашага вялікага гісторыка: “Не забыць таго праяснення, надзея і роспач безнадзейная ў адным поглядзе”. Гэта вялікая вера М. Улашчыка ў Беларусь і шкадаванне аб тым, што ён пакідае гэтую зямлю, так і не ўбачыўшы сапраўднай дзяржаўнасці. Дарэчы, раздзел пра патрыярха нашай гістарычнай навукі адзін з самых бліскучых і тонкіх у кнізе “Будам жыць!..” А. Каўка вельмі пранікнёна, прачула расказвае пра свайго паплечніка і старэй-

ПРОЗА

Уладзімір МАРОЗ



# ПЕРШАЕ ПРЫЧАСЦЕ

АПАВЯДАННЕ

ДАНІЛА, седзячы ў мяне на каленях, пакалыхваўся ў такт трамваю. А я бурчаў на Цімоха, які сядзеў побач, — маўляў, з-за цябе вось спазняемся. Потым ахамянуўся: што ж гэта я ў такі дзень ды яшчэ акурат цяпер, калі выбраліся дзеля святой справы? І пакінуў свайго старэйшага ў спакоі, бо, зрэшты, у пятнаццаць гадоў чалавека не пераробіш.

За бруднаватым трамвайным шклом плылі знаёмыя гарадскія краявіды. Колькі езджана гэтым маршрутам, але я ўсё роўна магу бясконца глядзець на свой горад, адгарадзіўшыся засяроджаннем ад транспартнай мітусні. Адна пры тым умова — сесці, бо калі стаіш, штурханіна замінае. Тады больш глядзіш на людскія твары.

Даніла таксама плыў са мною наўзбоч навакольнага тлуму. Яму, вядома, у свае год і чатыры месяцы для гэтага не трэ было нават прыкладваць намаганняў — ён і так належаў пакуль што толькі сабе. Хіба што яшчэ крыху і нам — бацькам ды брату з сястрой.

Была, праўда, у сённяшняй справе адна нявыкрутка — рэжым маленькага хлопчыка. Я спадзяваўся, што вандроўка захопіць яго і не дасць заснуць. Ды дзе там! На паўдарозе ён прыгарнуўся да маіх грудзей, прыціхшыся і заснуў.

Значыць, на тое Божая воля. Дайшло гэта пазней, як і потым ускалыхнулася ў душы сваё маленства, ледзь улоўнае за смугою часу...

Так мы і выйшлі з трамвая — Даніла спаў у мяне на руках.

Мяне заўсёды нейкім чынам кранала, што да царквы трэ было ісці праз могілкі. Хочаш не хочаш, а надмагільныя помнікі забіраюць твой пагляд надпісамі: прозвішча, імя, імя па-бацьку. Бянігна Іванаўна Луцэвіч — маці народнага песняра... Яшчэ і гады жыцця выхапіш абавязкова. Такая ўжо ўласцівасць могілак, і з гэтым даводзіцца мірыцца.

Як і са шматлюддзем у храме — наступствам катастрафічнага недахопу святынь у такім агромністым горадзе. Народу было шмат і сёння, балазе Нарадзіны Хрыстовы — светлае, узнёслае і не да канца асэнсаванае свята.

На падыходзе сустрэліся з маім таварышам, які таксама прыпазніўся адносна дамоўленага часу. Так што дарэмна я выгаворваў Цімоху, бо ўся гэтая дзея не ў чалавечай волі.

У храм нам з маленькімі дзецьмі на руках даводзілася літаральна праціскацца. Жанчыны спагадліва падказвалі, што дзяцей хрысціць там, з вуліцы ўваход. Ды не хрысціць мы...

Унутры было цёпла. Служба падыходзіла да завяршэння, хораша спяваў хор і пахла ладанам.

Не ўпарыўся б... Мы праціснуліся ўбок і я пачаў распранаць Данілу. Зняў паліто і шапку (добра, што Цімох быў побач і было каму ўсунуць гэта ў рукі). Малы на нашыя турзанні ўвагі так і не звярнуў — спаў сабе салодка і бесклапотна.

Услед за таварышам стаў ціснуцца наперад. Дзеці зараз у першую чаргу... Святар ужо прамаўляў казань, але сэнс слоў не даходзіў. Да таямніцы заставаліся лічаныя хвіліны, а Даніла ўсё спаў. Вось ужо і да амвона прасунуліся, вось ужо і святыя дары выносяць... Хваляванне дайшло да мяжы — пара будзіць.

Раскатурхваю дзіця, а яно так не хоча выходзіць з салодкага спакою, што даў Усявышні. Нарэшце расплюшчвае вочы. Крыху яшчэ няўцямна, але разам з тым і асэнсавана першы позірк кідае не на людзей, якіх поўна, не на святароў, а адразу ўверх, пад купал, дзе гарыць свяцільнік, дзе пераліваюцца залатыя аклады абразоў. Уверх глядзіць, сапраўды чысты і гатовы да свайго першага прычасця...

І толькі ўжо каля святароў у залатых адзеннях да яго трохі даходзіць нязвыкласць сітуацыі, крышачку палохаецца і таму віно дарэшты мо і не выпівае, хіба толькі палову. Замінка нейкая павінна быць, бо не можа так проста адпусціць дзіцячую душу нячысцік, цяжкі гэта выпадак для цёмных сіл.

Але прасвірку з'ядае без усялякіх узрушэнняў і выпівае ўсю святую вадузапіўку з зычлівых рук жанчын, якія прыслугоўваюць пры тым...

Калі было маё першае прычасце? Не адшукаць за нагрувашчаннем гадоў адказу, як і не вярнуць чысты свет маленства. Большасць дэталяў, фарбаў, гукаў згубілася, сцерлася, але вобразы, светлыя дзіцячыя вобразы застаюцца назаўсёды.

Пэўна можна толькі сказаць пра хрышчэнне. Хрысціла мяне баба Маня ў хаце, таемна. Прыйшоў бацюшка і зрабіў дзейства. Таемна нават ад бацькоў-настаўнікаў, хаця яны, мусіць, і здагадваліся. Час быў зусім іншы, жыў яшчэ ў памяці сталінскі страх — я нарадзіўся ў год яго смерці. Праўда, памёр ён вясною, а я з'явіўся на свет на пачатку лета. Але ўсё роўна чамусьці здавалася мне, пасталеламу, што я памятаю пахаванне Сталіна — шматлюддзе, жалобныя твары, слёзы. Чаму гэты міф убіўся ў галаву — не ведаю, сёння мне бясспрэчна зразумела, што пахаванне бацькі народаў я памятаць не магу.

Колькі мне было на час хрышчэння — невядома: год, ці больш, ці менш? Але факт быў, пра яго апавядала потым сама баба Маня. Пад сакрэтам. Ці нават і самі бацькі сказалі — не ведаю, а бабу Маню ўжо не перапытаеш...

У хаце яна ў свой час пахрысціла і майго старэйшага брата Алега (розніца між намі была ў два гады). А вось ужо іншых унукаў, двух маіх малодшых братоў, прыйшлося хрысціць мне самому — баба па нейкіх прычынах не змагла. Зрэшты, прычыны відавочныя — царкву ў Мікалаеўшчыне разбурылі, папа не было, а да Стоўбцаў было не даехаць. Але пра тое пазней...

Гады, калі надышла ўжо мая адказная пара, таксама былі неспрыяльнымі для адкрытага хрышчэння, — пачатак васьмідзесятых. Хаця іх і не параўнаць з сярэдзінай пяцідзесятых, але ўсё роўна спісы аддаваліся ў КДБ, і яшчэ невядома было, чым усё можа скончыцца — ці ў партыю не прымуць, ці за мяжу не пусцяць. А прасцей за ўсё — у службовай лесвіцы скончацца твае прыступкі.

Таму і ў той час усё трэ было рабіць таемна. Ды яшчэ і па пратэкцыі — не мінула гэта і царкву. Хаця больш правільна будзе сказаць — па знаёмстве.

Знайшлася ў мяне такая знаёмая — у нашым жа праектным інстытуце, дзе я працаваў архітэктарам. Безнадзейна-бездаказна закаханая ў майго таварыша. Праз яго мы й пазнаёміліся. Напалову яўрэйка, але хрышчоная, больш таго — сапраўдная верніца, сябра царкоўнага актыву.

А ў мяне ўжо быў нарадзіўся Цімох. Як жа дзіцяці быць без крыжа?

Так усё і закруцілася. Варта толькі адзначыць, што ў гэты час адна мая былая аднакурсніца прыйшла да веры, а там нехта яшчэ — другі, трэці... Я толькі радаваўся. А пра сябе ведаў, што ніколі не адыходзіў ад царквы, хаця ў сапраўдным разуменні царкоўным жыццём не жыў. Так што аднадумцаў хапала.

Беларускі мужык, ці хлопец, як сабе хочаце, — чалавек ашчадны. Калі ўжо рабіць справу, то рабіць. Бо і жонка мая была нехрышчоная — бацькі былі надта ж партыйнымі, ды і браты мае малодшыя.

Вось і набралася сябрына — маленькі Цімох, якому было каля года (нарадзіўся ён у семдзесят дзявятым, а хрысціць даўмеліся ў васьмідзясятым), жонка мая Вольга ў свае дваццаць шэсць гадоў ды брат Мікалай, якому стукнула дваццаць два.

Балазе, да кафедральнага сабора было рукой падаць — жылі мы тады ў сямейным інтэрнаце ля "Патсдама".

На цяперашні розум, то парушэнні ў гэтай дзеі былі — да прыкладу, хросным бацькам усім траім, як адзіны мужчына, стаў я, сам трымаў Цімоха на руках. Памятаю, што плакаў ён вельмі, толькі пад канец хросту супакоіўся, прасветлены — саступіў пад больш моцнаю сілаю злы дух, сышла Дабрадаць.

Марынку, дачушку, хрысцілі яшчэ больш "рамантычна" — паехалі ў вёску ля Ліды да братавай жонкі, далей ад Мінска. Выявілася, што і сапраўды далёка — кіламетраў пад дзвесце адкруцілі ў адзін бок. Дзякуй Богу, машына свая. Ды і лета было. Лета восемдзесят пятага...

Блізкая царква была зачынена, дый святара не знайсці, давялося паехаць па навакольных вёсках, пашукаць. І пашанцавала. Гэтак бывае заўсёды, калі маеш намер на ўгодную Богу справу. Вёска тая называлася Збляны, мураваная царква ў ёй, прыгожая, хаця і не вельмі старадаўняя, стаяла на беразе Нёмана. Ён плыў спакойна ўнізе, а царква на пагорку, як і належыць ёй, ляцела ўверх.

Бацюшка, добры чалавек ужо сталага веку, згадзіўся на нашу просьбу. Праўда, хрысціў нас не ў царкве, каб не кідалася ў вочы, а ў сваёй хаце. Нас зноў было трое: паўтарагадовая Марынка, дваццаціаднагадовы мой брат Ігар ды пляменніца братавой, таксама студэнтка.

І зноў я адзін быў за хроснага, зноў сам трымаў сваё дзіця на руках... Застанецца ў жыцці дачкі гэтая прыгожая мясціна, куды можна будзе потым хоць зрэдку, хоць аднойчы прыехаць і сказаць свайму мужу і дзеткам: тут мяне хрысцілі...

Мая царква ў Мікалаеўшчыне таксама стаяла на беразе Нёмана, які таксама спакойна нёс свае воды ўнізе, а купалы ляцелі ўверх з самага высокага ў вёсцы месца. Дзівосны краявід, напэўна, быў з занёманскіх даляў на вёску з прыгожым сілуэтам царквы — цяжка цяпер уявіць.

А сілуэт быў сапраўды прыгожы — царква сямікупальная, ладная. Драўляная — як звон. І было гэтаму цуду падчас майго маленства пад сто гадоў.

Тая царква пакінула ўва мне адчуванне свята. Фармальная разгадка простая — хадзілі мы з бабай Маняй да храма, натуральна ж, на праваслаўныя святы, калі і людзей шмат, і прыбраныя яны ўсе адпаведна. Ды яшчэ заўсёды было тое ўлетку, бо ў бабы, зразумела, я праводзіў леты. А вось нефармальная...

Зялёная трава, набрынялыя кроны высокіх старых дрэў, праз якія прабіваюцца сонечныя промні, яркія блікі на царкоўных макаўках, узнёсласць дзеі...

Баба спявала ў царкоўным хоры — і спеў гэты таксама помніцца ў дзіцячай памяці як нешта чыстае і кранальнае, ад чаго млела душа.

Ці прычашчала царква мяне ў той час — аднаму Богу вядома. Сам не памятаю. А раз невядома, то і лічыць не будзем.

Напрыканцы пяцідзесятых раскідалі бальшавікі гэтую царкву, толькі сум у людзей застаўся. Ды пра тое зноў жа — свой сказ.

Аднойчы, падчас прыезду да дзеда з бабай ужо студэнтам-архітэктарам, папрасіла мяне бабуля намаляваць ёй царкву. Прынесла нават ад некага з вёскі яе фота. Здымак быў цудоўны — храм у выдатным ракурсе, амаль усе купалы відаць на фоне неба. А ля царквы — хросны ход, зноў жа — свята.

Я намаляваў на досыць вялікім аркушы паперы тушшу ды пяром сваю царкву. Пастараўся — ажно самому спадабалася. Што тады й казаць пра тое, як была задаволена мая бабуля Маня!

Ды зноў жа — згарэў той малюнак у пажары, ды і баба пасля такога няшчасця жыла свае апошнія сем гадоў з іншымі клопатамі.

З-за такіх пературбацыяў і аднабокага савецкага жыцця давялося ісці на сваё першае прычасце ўжо амаль саракагадовым мужчынам, бацькам дваіх падрослых дзяцей. Вольга мая тут была першай, а я ўсё збіраўся з маральнымі сіламі — і нейк сорамна і грахі свае ўсё перабіраў ды перабіраў. Але далей без прычасця было проста немагчыма.

Нездарма ж кажуць, што цяжка зрабіць першы крок — як да добрага, так і да благога. І як бы я сябе ні суцяшаў, што заўсёды быў вернікам, праўда адна — сапраўднага верніка без царкоўнага жыцця няма.

І вось стаім усёй сям'ёю на споведзі, хвалюемся. Людзей багата. Акурат гэта і скрасіла крыху мой сорам на першы раз, хаця такое суцяшэнне й слабое.

Рэч у тым, што людзі ў той перабудовачны час кінуліся да храма, з іх плынню справіцца было не проста.

Стаю і каюся. Каюся разам з усімі. А на споведзі дзе там кожнага дапытаешся — і дня не хопіць. Так вось і я — прыйшоў на першую споведзь, і адпусціў мне бацюшка грахі мае. Разам з усімі іншымі людзьмі. Псіхалагічна, зразумела, так лягчэй — у гурце. Што зробіш, калі ў прыродзе чалавека шукаць сабе палёгку. А тут і шукаць не трэба, абставіны спрыяюць...

Ужо наступны раз, іншы святар адчуў, напэўна, цёмныя хвалі, калі трымаў руку над маёй галавою. І сказаў зусім справядліва: трэба пасціцца, хадзіць у царкву ды прычашчацца як мага часцей, бо часу згублена шмат, а дарога да ачышчэння праўдзівага ой яшчэ якая далёкая...

Але мы заўсёды знаходзім сабе апраўданні — то часу няма, то цяжкае жыццё вымагае круціцца, як уюн на патэльні, каб сям'ю пракарміць, то яшчэ нешта падобнае. То вось трэцяе дзіця нарадзілася, колькі клопату... І цяжка разарваць гэтыя кругі, што накручваюць вакол цябе цёмныя сілы, змагаючыся за тваю душу. І пастоў не трымаешся. І там зграшыў, і тут грэх. І няма апраўдання...

Усё трэба ў свой час. Але не заўсёды мы выбіраем, асабліва ў дзяцінстве. Бо свабодная воля, якую даў нам Гасподзь, і права выбару прыходзяць толькі са сталеннем, калі ты ўжо сам вольны вырашаць, што табе рабіць і як табе жыць...

Але сёння душа радавалася — і вялікае свята, і першае прычасце Данілы пасля яго хрышчэння ў гэтым жа ўтульным храме. Ён не будзе яго памятаць, але будзе каму расказаць яму пра гэты дзень потым. Ён не будзе памятаць, як ужо зацікаўлена, пакуль мы з Цімохам яго апраналі, убіраў у сябе царкву, людзей, свечкі, што нястомна гарэлі, абразы, якія падсвечваліся лампадкамі. Ён не будзе памятаць, што Збавіцель даў яму соп перад першым прычасцем, каб прыйшоў да святых дароў нават не крануўшыся тлуму. Не будзе памятаць...

Але ўсё гэта ўжо будзе назаўсёды з ім, хай сабе і падсвядомым светлым хваляваннем.

І дарога назад у трамваі была нейкай надзіва спакойнай, і горад за мутным трамвайным шклом здаваўся надзіва прыветным, і пахла вясною пасярод зімы...

Праз некалькі дзён Даніла захварэў. Колькі дзён яму было зусім дрэнна. Схуднеў, зблажэў — здаецца, сам бы хварэў, чым бачыць пакуты дзіцяці. Ды і ачуняваў потым доўга.

Няпроста адпускае нячысты душы да свята, якое, па запавеце, ёсць царства нябеснае...

## З французскім шармам

**У пачатку чэрвеня Брэсцкі абласны тэатр лялек нязвыкла апусцеў — прычынай таму была паездка на Міжнародны фестываль тэатраў лялек у Францыю, у мястэчка Цюрландры. І хоць нашыя лялечнікі выступалі ў дзень закрыцця фестывалю — спектакль "Дзед і Жораў" паводле В. Вольскага (пастаноўка З. Нуязіна, лялькі і сцэнаграфія М. Данько) французскія гледачы прынялі вельмі цёпла. Нават акторская ігра на беларускай мове не была перашкодаю — артыстаў разумелі, і толькі ў некаторых момантах гледачам дапамагала праграмка, складзеная на французскай мове.**

**Як заўважыў дырэктар БТЛ М. Шавель, арганізатары фестывалю перш за ўсё клапаціліся пра гледачоў.**

**Таму асаблівае ўражанне пакінула творчасць скульптара-баланіста Кэрал, якая на вачах публікі надзімала паветраныя шары і вырабляла з іх сапраўдныя цуды. М. Шавель неадкладна запрасіў Кэрал да нас на Міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа", які адбудзецца сёлета ў верасні. Была яшчэ адна прыемная сустрэча — з мінулагоднім галоўным прызёрам "Белай вежы" Джымам Гэмблам, які таксама даў згоду прыехаць у Брэст. Акрамя брэсцкіх артыстаў, на Цюрландрынскім свяце гасцявалі калектывы з Францыі, Іспаніі, Італіі, ЗША. Цікава, што для беларусаў арганізатары "Зачараванага падарожжа" наладзілі адмысловую сустрэчу з узбярэжжам Атлантычнага акіяна. Па вяртанні таксама быў адведзены дзень для знаёмства з Парыжам, горадам, у якім марыць пабыць хоць бы раз у жыцці, бадай, кожны чалавек...**

**У ліпені БТЛ мае намер здзейсніць яшчэ адну замежную паездку. На гэты раз — у нямецкі горад Равенсбург, на Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Фігура", дзе пакажа спектакль "Чырвоны каптурок" (рэжысёр-пастаноўшчык З. Нуязін, мастак М. Данько, кампазітар А. Мядзведзеў).**

**І. Х.**

## Спектакль пра Гарэцкага

**Сёмы сезон тэатральнай студыі Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку, якую ўзначальвае заслужаны дзеяч культуры Беларусі рэжысёр Валянцін Ермаловіч, завяршыўся значнай падзеяй у грамадска-культурным жыцці горада на Дняпры. На сцэне мясцовага Дома культуры адбылася прэм'ера спектакля па аднайменнай п'есе Максіма Гарэцкага "Жартаўлівы Пісарэвіч".**

**Дзеянне твора, згадаем, адбываецца ў першыя гады пасля кастрычніцкага перавароту. Заходняя Беларусь знаходзіцца пад нямецкай акупацыяй, ва Усходняй пануюць бальшавікі. Ужо адбылося абвяшчэнне БНР, працягваецца ўздым нацыянальнага руху. Незадаволеныя бальшавіцкай уладай сяляне аказваюць супраціўленне. Ідзе барацьба дзвюх ідэалогій: бальшавіцкай, ярым прыхільнікам і абаронцам якой выступае Карпавіч (акцёр Уладзімір Бяляцкі), і нацыянальнай, скіраванай на беларускае адраджэнне, правадніком якой з'яўляецца Мікола Канцавы (Алег Дз'ячкоў).**

**Рэжысёр В. Ермаловіч значна парушыў змест п'есы, а насамрэч драматычнага абразка М. Гарэцкага "Жартаўлівы Пісарэвіч", увёўшы ў тканіну спектакля асобныя старонкі аповесці Гарэцкага "Дзве душы", а таксама архіўныя дакументы з кнігі Радзіма Гарэцкага "Ахвярую сваім Я". І на тое ў рэжысёра былі падставы. Дачка Максіма, Галіна Гарэцкая, успамінае пра "Жартаўлівага Пісарэвіча": "Бацька, знаю ад маці, вельмі любіў гэты твор. Ёсць у Пісарэвіча і яго рысы: вялікае разуменне людзей, дабрата, цярплівасць, здольнасць жартаваць нават у сумныя, цяжкія хвіліны жыцця". Такім чынам, "Жартаўлівы Пісарэвіч" у пастаноўцы Валянціна Ермаловіча — не толькі твор Максіма Гарэцкага, але і спектакль пра яго самога: вялікага класіка нацыянальнай літаратуры, пакутніка зямлі беларускай.**

**На прэм'еры "Жартаўлівага Пісарэвіча" прысутнічаў і Радзім Гарэцкі, які спецыяльна прыехаў з Мінска ў Магілёў.**

**Акрамя згаданых акцёраў, у спектаклі заняты Аксана Цімашэнка, Святлана Баталава, Раіса Ануфрыева, Міхась Бацэвіч, Таццяна Пушкіна, Міхась Наскоў, Дзіма Кірылаў, Мікола Паддубскі, Андрэй Барысенка, Віталь Нікіцёнак, Максім Ганчароўскі, Сяргей Леўчанка, Андрэй Чарнецкі.**

**Міхась КАРПЕЧАНКА,**
**нам. рэдактара райгазеты "Зара над Друццю"**

ДАТЫ

# Горкая радасць вяртання

## У СТАЛІЧНЫМ ДОМЕ ДРУЖБЫ АДБЫЛАСЯ ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ 100-ГОДДЗЮ МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

Зноў, як і 10 гадоў таму, калі ўпершыню было дазволена змясціць падборку самых розных матэрыялаў пра М. Забэйду-Суміцкага, у тым ліку і старонкі яго аўтабіяграфіі, з горыччу думалася пра шчаслівы і трагічны лёс нашага выдатнага суайчынніка, спевака, голасам якога захаплялася ў перадваенны час уся Еўропа і які мусіў стаць "залатым скарбам" Беларусі, аднак...

Чаму звычайная беларушчына, нармальная, шчырая, рахманая беларушчына не-не дый абарочваецца небяспекай, вымагае ахвяраў і пакут? Задаю сабе гэтае пытанне, разважаючы пра Забэйдаў лёс. Адказу — няма. Як няма й вытлумачэння дзіўнай логікі афіцыйнага непрыняцця, замоўчання самога імя спевака, якое павінна быць (і ёсць!) сярод першых імёнаў у айчыннай культуры. Ён жа ніколі не здраджваў сваёй Радзіме, свайму народу, не быў у канфрантацыі з савецкай уладай, бо воляю гісторыі апынуўся па той бок мяжы яшчэ ў 20-я. Вядома, што яго легальныя канцэрты ў ліхія ваенныя часы давалі падтрымку партызанам Віленшчыны: і духоўную, і матэрыяльную.

Ён меў выдатны прыродны талент і школу італьянскага бельканта. Яго прыгожы лірычны тэнар высока цаніў Л. Собінаў і запрашаў на працу ў Вялікі тэатр. І хаця М. Забэйду-Суміцкаму не выпала спяваць на славутай расійскай сцэне, але давялося выступаць і ў славутым "Ла Скала", і ў оперных тэатрах Харбіна, Познані, Варшавы, Прагі...

Наш таленавіты і ні ў чым не вінаваты перад Радзімай зямляк звёдаў трагічнае, па сутнасці бясспрэчнае жыццё самотнага эмігранта, які шчыра веруў, што зможа вярнуцца на Беларусь і горка пакутаваў ад таго, што новыя пакаленні суайчыннікаў ніколі не чулі яго спеваў. У 63-м, атрымаўшы дазвол прыехаць на Беларусь з канцэртамі, зазнаўшы гарачы прыём слухачоў, пажылы прафесар Пражскай кансерваторыі адчуў надзею на ажыццяўленне сваёй мары. Але ўжо да самага скону яго зніточвалі з радзімай толькі перапіска, кніжныя навінкі ды візіты сяброў у ПРагу. Міхась Іванавіч дбайна збіраў асабісты архіў і завяшчаў яго Беларусі — каб хаця так, праз песні, лісты, фотаздымкі вярнуцца да яе.

Спадчыннікам М. Забэйды, як вядома, стаў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (ён разам з Таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Таварыствам "Беларусь—Чэхія", творчым аб'яднаннем "Беларуская Капэла" і Дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў зладкаваў юбілейную вечарыну, да якой прымеркаваў і выстаўку дакументальных матэрыялаў, у тым ліку — фота).

Вечарына выклікала вялікую грамадскую цікавасць, атрымалася кранальнай і шчырай. Вёў яе заслужаны артыст Беларусі В. Скорабагатаў. Выступалі шаноўныя, вядомыя ў краіне людзі, якіх так або інакш лёс звodзіў з М. Забэйдам-Суміцкім і кожны з якіх мог бы дзяліцца сваімі ўспамінамі, меркаваннямі, перажываннямі не адну гадзіну.

Гэта і Сяргей Грахоўскі, які пазнаёміўся з М. Забэйдам падчас яго візіту ў Мінск, і Алесь Бажко, якому Міхась Іванавіч дапамог паступіць у Варшаўскую кансерваторыю. І мікрабіёлаг Надзея Батурыцкая, якая падчас колішняй шматмесячнай аспірантскай камандзіроўкі ў Прагу пазнаёмілася з легендарным спеваком і яго пражскімі сябрамі Кастэцкімі. І дырэктар архіва-музея Ганна Запартыка, чыя папярэдніца Г. Сурмач паспрыяла дастаўцы ў Мінск Забэйдавай спадчыны і чые калегі Г. Жукава ды Т. Лапкоўская займаюцца навуковым упарадкаваннем гэтага ўнікальнага фонду, які чакае свайго даследчыка. Выступалі Адам Мальдзіс, Сяргей Панізнік... Гучаў запіс голасу М. Забэйды-Суміцкага. Спявалі Іван Краснадубскі, Віктар Скорабагатаў і малады тэнар, сёлетні выпускнік Беларускай акадэміі музыкі, пераможца конкурсу вакалістаў "Убельская ластаўка" Яўген Ермакоў...

А ўсё адно чагосьці не хапала. Можа, дакументальнага фільма "Вяртанне Міхася Забэйды", першыя кадры якога мільганулі на белым экране, а працяг быў адкладзены на цэлы тыдзень — да юбілейнага прагляду ў кінатэатры "Змена". Можа, прысутнасці такіх шаноўных гасцей, як Янка Брыль, Ніл Гілевіч, стасункі якіх з "пражскім беларускім салаўём" складваліся таксама адметна. Можа, самых запісаў яго ўнікальнага голасу.

Можа, афіцыйнай увагі...

Сапраўды, на вечарыну прыйшлі прадстаўнікі пасольстваў Чэхіі ды Кітая (краін, дзе, паводле сведчанняў спевака, ён адчуваў сябе па-людску, дзе ягоная беларускасць не лічылася нейкай ідэалагічнай заганай, як тое было ў Германіі, у Польшчы)... А Міністэрства культуры, падалося, праігнаравала 100-годдзе выдатнага спевака. Застаецца спадзявацца, што 110-я ці 120-я гадавіна будзе адзначана з большым розгаласам, ва ўрачыстай абстаноўцы, з адкрыццём помніка Забэйду на яго роднай Пружаншчыне.

Сёлета ж намаганнямі энтузіястаў з "Беларускай музычнай альтэрнатывы" пад кіраўніцтвам В. Супраневіча вядзецца камп'ютэрная апрацоўка тэхнічна недасканалых запісаў з архіва, прыватных калекцый, каб усе яны ажылі, набылі новае дыханне на CD. Чакаецца, што першы кампакт з поўным зборам песень і арый (а спяваў Забэйда на 18-ці мовах свету!) выйдзе ўжо ў верасні.

*А час ляціць... Жыццё ўцякае...*
*Так часта між людзей бывае:*
*Што маем — не шануем,*
*А страцім — дык шкадуем...*

Гэтае чатырохрадкоўе за подпісам "Дзядзька Некурчбарады" склаў М. Забэйда-Суміцкі. Горкая мудрасць...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ ў 1958 г.*

МУЗЫКА

# "Спяваць хорам лепей з дзяцінства..."

**Віталь Рауза — віцебскі педагог і дырыжор гарадскога народнага маладзёжнага хору. Феномен гэтага калектыву ў тым, што ў ім спяваюць маладыя людзі рознага ўзросту і адукацыі. Самаму малодшаму спеваку Дзіму Шрубіку толькі 14, а вось Юля Карэліна спявае ўжо 20 гадоў.**

**Амаль усе харысты Раузы пачыналі са спеваў у ДМШ — у цяперашняй Віцебскай школе мастацтваў N 1, дзе працуе Віталь Аляксандравіч. Пасля школы юнакі і дзяўчаты робяць розны выбар: хто вучыцца на доктара, хто на юрыста, але працягваюць хадзіць на рэпетыцыі да Раузы. У чым жа сакрэт такога прыцягнення? Магчыма, у асобе самога кіраўніка калектыву, які сцвярджае, што харавыя спевы маюць чарадзейны выхаваўчы вынік. Віталь Рауза лічыць, што была зроблена памылка ў 80-я гады, калі ўсе агульнаадукацыйныя школы перайшлі на сістэму Д. Кабалеўскага, адышоўшы ад спеўных традыцый і засяродзіўшы ўвагу на слуханні музыкі. Бо менавіта праз харавое спяванне захоўваецца пераемнасць пакаленняў, повязь часоў, без чаго чалавеку складана зрабіцца гарманічна развітай асобай.**

**Маладзёжны хор Віталя Раузы з'явіўся насуперак часу, ці, як ён сам жартуе, "насуперак законам прыроды", бо 90-я гады — не самы лепшы перыяд для стварэння калектыву. Рауза не меў дзяржаўнай падтрымкі, усё грунтавалася на прыватнай ініцыятыве. Прынцып В. Раузы: не можаце дапамагчы — тады не перашкаджайце.**

**Паступова аматарскі калектыў наблізіўся паводле кваліфікацыі да прафесійнага. За дзевяць няпоўных гадоў было выканана 20 твораў буйной формы. Сталася сенсацыяй, калі віцябчане разам з нямецкім хорам "Кантарай" выканалі Літургію П. Чайкоўскага на стараславянскай мове. А ягоную ж кантату "Масква" Маладзёжны хор спяваў у суправаджэнні Смаленскага аркестра рускіх народных інструментаў імя В. Дуброўскага. З хорам выступалі заслужаны артыст Беларусі Віктар Скорабагатаў, салісты Вялікага тэатра Расіі Таццяна Ярастава і Сяргей Мурзаеў. Сёлета ў траўні калектыў выязджаў з канцэртамі ў Германію. І спяваў, прынамсі, пад скляпеннямі Майнцкага касцёла, вітражы якога стварыў славуты майстар віцебскага паходжання Марк Шагал.**

**Віталь Рауза — наш суразмоўца.**



**— Віталь Аляксандравіч, што, на ваш погляд, можа быць складнікамі поспеху аматарскага харавога калектыву? Напружаная праца, пастаянныя рэпетыцыі, выбар рэпертуару ці нейкія "прабіўныя" вартасці?**

— У культуры кіраванне, да якога мы ўсе прызвычаіліся, толькі перашкаджае. Самастойнасць і самапавага дазваляюць дамагчыся сапраўднай якасці, без якой культура — не культура. Яшчэ Віктар Уладзіміравіч Ройда сказаў: 70 працэнтаў поспеху — у рэпертуары. Мы спяваем розную музыку, але ж лепшая — гэта італьянская, нямецкая і руская. Так традыцыйна склалася. Заходні слухач заўсёды з цікавасцю слухае ўсходнееўрапейскую музыку. Таму, акрамя Брамса, Мендэльсона, Баха, у нашым рэпертуары — Грачанінаў, Рахманінаў, Чайкоўскі. Мае выхаванцы ведаюць патрабаванні да рэпетыцый. Пажадана наведваць 8 з 10-ці. Хворым і гультаям у музыцы няма чаго рабіць.

**— Давайце прыгадаем, як дзевяць гадоў таму нараджаўся ваш калектыў...**

— Свой першы дзіцячы хор я стварыў яшчэ ў 1973-м. Але там было лёгка. Дзеці старанна наведвалі заняткі. Калі ж у пачатку 80-х узяў хор дарослых і паспрабаваў далучыць туды моладзь, нічога не атрымалася. Тады вырашыў пайсці па мадэлі ленінградкі Марыі Зарынскай. Гэтая жанчына ў пасляблакадны час арганізавала ў родным горадзе хор. Я быў на 35-годдзі гэтага калектыву, у якім спявалі бабулі разам з моладдзю.

У 1991-м мы з хорам Віцебскай школы мастацтваў адпачывалі ў Бярэзінскім запаведніку. Дваццаць выпускнікоў тады выказаліся, што хацелі б працягваць спяваць хорам. Праз тры месяцы ў нас было ўжо 45 чалавек. Так дзіцячы хор перарос у маладзёжны. А калі ў 1992-м у Віцебск прыехала педагог з Германіі Урсула Хайнеке і паслу-

ТЭАТР

# Актрыса з Божае ласкі

Юзэфа Саевіч — актрыса з Божае ласкі... Вучылася ў славутага Арлова, у 1958 годзе пасля заканчэння тэатральнага інстытута была накіравана ў Бабруйскі тэатр. Родам яна з Пастаўскага раёна, і з бацькоўскага дома на месца сваёй будучай працы (у той час тэатр гастраляваў на Віцебшчыне) маладая прыгожая дзяўчына прыкаціла проста на веласіпедзе. Са сваімі спадзяваннямі, марамі, жаданнем іграць цікавыя ролі.

А шлях выдаўся поўны чакання і "свайго" рэжысёра, і "сваёй" ролі. Рэжысёры, напэўна, пабойваліся тэмпераменту, непадобнасці на іншых, непакорнасці маладой актрысы. Бывала, што Юзэфа іграла адны толькі казкі, у якіх старалася рэалізаваць свае магчымасці на ўсю моц. І паглядзелі б вы, з якой чалавечай годнасцю, нават шляхетнасцю трымалася яна ў тыя цяжкія часы!

Я добра запомніла сваё ўражанне ад гульні Саевіч у спектаклі "Аперацыя "Сабіна", які ставіў В. Баркоўскі, калі працаваў у нас. Адчувалася нейкая ўзвышаная трагічнасць, калі сярод масоўкі непрыкметна пачынала свой плач яе гераіня.

Затое ў "Прымаках" ці ў "Пінскай шляхце", дзе Саевіч іграла нямую жонку Цюхай-Ліпскага, актрыса ў першую ж хвіліну выклікала смех у зале. Але ў другім спектаклі зноў дамагалася вяршынь трагедыі. Калі ў спектаклі "Дзякуй ад Ізраіля" актрыса моўчкі выходзіць на сцэну, адчуваеш адразу роспач і невымоўную журбу простай беларускай жанчыны. І гэта ўжо не проста прафесіяналізм, гэта індывідуальнасць, асоба, якая ўвабрала ў сябе мінулае Бацькаўшчыны.

У прэм'ерным спектаклі "Дом у каланіяльным стылі" Ю. Саевіч выконвае ролю кубінскай арыстакраткі, якая "згубіла веру ў чалавека і яе жыццёвым крэда стала — "Нікому не давярай!" Калі ж гэта філасофія не сцвярджаецца, мы бачым разгубленага, стомленага, самотнага чалавека.

А колькі роляў магла б сыграць гэтая актрыса! Чаму нашы рэжысёры такія невідучыя, такія незацікаўленыя? У Юзэфы Казіміраўны моцны, вельмі прыемны голас (я чула, як яна спявае ў касцёле), але ў тэатры гэта яе здольнасць ніяк не выкарыстоўваецца. А якая пластычная, як добра ўмее танцаваць! Мне выпала іграць з ёю ў "касцюмных" спектаклях "Бяда ад пяшчотнага сэрца", "Жаніцьба Бальзамінава". Што заўсёды ўражвала ў актрысе, дык гэта яе арганічнасць існавання на сцэне, проста незвычайная.

У нашай прафесіі вельмі шмат цяжкасцей: кожны акцёр залежыць ад выбару рэжысёра, ад таго, як ставяцца да цябе калегі. Трэба мець моцны характар і непахісную веру, каб не зламацца. Павінна сказаць, што Юзэфа Казіміраўна ўмее пераадольваць выпрабаванні з годнасцю. Хочацца спадзявацца, што актрыса яшчэ падорыць гледачам свой талент і багацце душы, бо нездарма ж было наканавана простай сялянскай дзяўчыне стаць актрысай.

**Ала ГРАХАВА,**
**актрыса тэатра імя Дуніна-Марцінкевіча, г. Бабруйск**

*На здымку: сцэна са спектакля "Прымакі" з удзелам Юзэфы Саевіч.*



хала нас, дык прапанавала выканаць "Калядную араторыю" Баха разам з хорам нямецкай евангелічнай суполкі. Мы згадзіліся, хаця і разумелі, што будзе складана. Прыехалі ў Ветцлар, дырыжор Ехім Айхорн здзівіўся: маўляў, няўжо такія юныя асобы выканаюць Баха? Аднак у нас атрымалася. І Германія ветліва адчыніла перад намі свае дзверы.

**— Вы ўдзельнічалі ў калядных канцэртах у Германіі і, зразумела, імкняцеся такую ж ідэю ажыццявіць у сябе на радзіме...**

— Калядныя канцэрты — гэта вельмі прэстыжныя ў Еўропе імпрэзы. З 1996 года мы пачалі і ў нас арганізоўваць нешта падобнае. Але пакуль толькі здольныя на адзін канцэрт 7 студзеня. Я ж мару, каб канцэрты гэтыя доўжылі два тыдні: з 25 снежня да 7 студзеня, у розных залах.

**— Вядома, не кожны музыкант можа быць дырыжорам. Які быў ваш шлях у такую рэдкасную прафесію?**

— Нашы навучальныя ўстановы рыхтуюць дастаткова харавых дырыжораў, але ж з калектывамі працуюць адзінкі. Як нельга выхаваць кампазітара, так нельга выхаваць і дырыжора. Можна закончыць кансерваторыю, мець добрыя вакальныя дадзеныя, але каб працаваць з хорам, трэба быць яшчэ і арганізатарам, і псіхолагам. Музыкант працуе з інструментам, дырыжор працуе з калектывам людзей. А калектыў трэба ствараць.

Сам я ў музычны свет трапіў, можна сказаць, выпадкова, нейкім эмпірычным шляхам. З бацькамі адпачывалі на поўдні, і там я "закахаўся" ў акардэон. Аднак у музычную школу паступіў не адразу. Маці наняла прыватнага настаўніка, а потым я пайшоў спяваць у ансамбль "Зорка". Пасля васьмі класаў праваліў уступныя экзамены ў музычнае вучылішча. І нават ужо збіраўся ісці на мастацка-графічнае. Але знаёмыя ўгаварылі паступаць на харавое. Але і тады з рэўнасцю ставіўся да тых, што вучыліся па класе акардэона.

Цяпер я ўпэўнены: харыста трэба выхоўваць з дзяцінства. Нездарма японцы выявілі: хто чыста інтануе, той лепей працуе.

**— Віталь Аляксандравіч, падзяліцеся сакрэтамі, як зацікавіць маладых людзей спевамі ў хоры? Ці ўсё трымаецца толькі на любові да спеваў?**

— Харавое спяванне — гэта выхаванне пачуццяў і густу. Хор вучыць цярпімасці адно да аднаго, ён мае стваральную моц. Адным словам, я заўсёды на першае месца стаўлю выхаваўчую функцыю хору, на другое — выканаўчы ўзровень. Ёсць у мяне каля 100 правілаў. Першыя з іх такія: ніколі не крыўдзіць вучня, нават калі ён не падрыхтаваў заданне; галоўны вынік — за год, а не за чвэрць; навучыць працаваць над сабой; у навучанні патрэбна паступовасць.

**— Што даюць вашаму хору замежныя гастролі?**

— Ва ўсім свеце вітаюць усялякую магчымасць падарожнічаць. І гэта нельга ўпускаць, не трэба шмат увагі надаваць побытавым умовам. Нават французы згаджаюцца спаць у спартзалах на матрасах, абы з'ездзіць у невядомую краіну... На гастролях мы робімся багацейшымі ад уражанняў і знаёмстваў. Немцы вельмі даражаць сяброўствам, яны доўга прыглядаюцца, але ніколі не кінуць, калі палюбяць.

**— Што вы думаеце пра нашу сістэму музычнай адукацыі?**

— Дзяржава затрачвае шмат сродкаў на пачатковым этапе музычнай адукацыі, а далей — не цягне. Мы адкрылі зашмат музычных школ. Столькі ці трэба? Параўноўваючы сваю працу ў сістэме адукацыі і ў сістэме культуры, заўважу, што сёння педагог мае больш пераваг, чым кіраўнік хору. І ў працягласці адпачынку, і ў зарплаце. Званне хормайстра нічога не важыць. Таму мне даводзіцца распыляць свае сілы, "зарабляць на гадзінах" у школе, каб хапіла на жыццё.

У нас не разумеюць, што хор — гэта твор мастацтва, і сацыяльныя праблемы не спрыяюць росквіту харавога мастацтва.

**— Што вы, кіраўнік хору, у першую чаргу вылучаеце як патрабаванні да сябе?**

— Прафесіяналізм. Працу над сабой. Самаўдасканаленне. Цярпенне і любоў да сваіх выканаўцаў.

**Гутарыла Святлана ГУК**

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

ФІЛЬМАПІС

# Героі нашага часу

На фестывалі "Лістапад-97" фільм піцерскага кінарэжысёра Аляксея Балабанава "Брат" мне вельмі спадабаўся. Памятаю, на экране ўзнікла сапраўдная кіназлегія: асенні горад, адзінокія трамваі, што бягуць унікуды, разгубленыя, зломленыя людзі. Балабанава я адразу палічыла маім рэжысёрам. У тым сэнсе, што атмасфера яго карціны супала з маім жыццёвым настроем, а яго думкі падаліся мне блізкімі, асабліва роздум пра буйныя гарады, якія робяць моцных людзей слабымі. "Дзе твае крылы?" — спяваў на пачатку фільма В. Бутусаў, калі ў кадры ўпершыню з'яўляўся Даніла Багроў, дваццацігадовы кілер, які стаў культавым героем нашай моладзі. Што Балабанаў прыхільнік іншасказу, я пераканалася пасля яго наступнай стужкі "Пра вырадкаў і людзей". Філасофскі рэбус пра тое, што звычайныя знешне людзі могуць быць маральнымі калекамі, а фізічна непаўнавартыя, вырадкі — добрымі людзьмі, стаў своеасаблівай візітнай карткай Балабанава ў кіно.

Поспех першага "Брата" вымусіў рэжысёра зрабіць працяг карціны. У "Браце-2" Даніла Багроў (С. Бадроў-мал.) зноў забівае ў імя справядлівасці, толькі на гэты раз яго зброя мае рацыю ў любым выпадку. І ўжо не Даніла, а пачвара Гадзіла жахліва грукае армейскімі ботамі па гарадах свету. Наогул другая частка фільма саступае першай: вобраз дуркаватага Данілы здаецца навязлівым; прыгоды братоў Багровых у Амерыцы — занадта прыдуманымі. Фільм склалі непатрэбныя сюжэтныя лініі, дробныя персанажы, кепская музыка (прынамсі, для мяне папулярныя хіты Zемфіры, Чачарыны, "Бі-2" нічога не вартыя). Трэба мець моцную псіхіку, каб вытрываць дзве гадзіны, пакуль герой С. Бадрова робіць Амерыцы "кірдык": забівае неграў, выратоўваючы рускую прастытутку, помсціць прадпрымальнаму амерыканцу, які падмануў добрага рускага чалавека. Дарэчы, "Брат-2" усур'ёз абвінавачваюць у прапагандзе расізму, называюць антыамерыканскім (слова "вырадкі" ў адносінах да амерыканцаў гучыць у фільме мноства разоў). Цікава, што рэжысёр і не хавае сваіх думак, адкрыта прызнаецца ў прэсе, што амерыканцы, як народ, як культура, яму не вельмі падабаюцца. Увогуле, кажучы словамі Багрова, амерыканцаў ён "как-то не очень".

Напэўна, сімвалічна, што адначасова з "Братам-2" на экраны мінскіх кінатэатраў выйшаў новы амерыканскі фільм "Пляж" з удзелам легендарнай ужо зоркі Леанарда Ды Капрыо, куміра сённяшніх падлеткаў. Стужку зрабіў знакаміты англійскі рэжысёр Дэні Бойл, які некалькі гадоў працуе ў Галівудзе (у канцы 90-х яго карціна аб наркаманіі "На игле" была прызнана ў Брытаніі лепшай за дзесяцігоддзе). Рэжысёра перш за ўсё цікавяць праблемы пакалення Х, таму для новай пастаноўкі ён выбраў нашумелы ў Амерыцы раман Алекса Гарланда. У новым фільме Бойла славуты Леа іграе юнака, які збег ад цывілізацыі, нарэшце адарваўся ад камп'ютэрных гульняў, каб зазнаць сапраўднае жыццё. Думаю, што гэта лепшая



акцёрская работа Л. Ды Капрыо пасля Арцюра Рэмбо.

Дарэчы, "Пляж" займеў скандальную славу, калі яшчэ здымаўся. Мастакі фільма мусілі "ўпрыгожыць" бульдозерам адно з самых цудоўных месцаў Нацыянальнага парку Таіланда — пляж Майя-біч. Абаронцы прыроды — "зялёныя" заклікалі грамадскасць свету да міжнароднага байкоту фільма. Аднак сёлета прэм'ера стужкі з поспехам прайшла на Берлінскім кінафестывалі.

Такім чынам, абодва новыя фільмы адначасова з'явіліся ў нашым пракаце.

Абодва — нашумелыя.

Абодва — падстава паразважаць пра герояў нашага часу.

Героі нашага часу — гэта юнакі, гатовы ўбіраць у сябе ўсё новае, незвычайнае, лепшае. Напрыклад, Рычард (Л. Ды Капрыо), калі трапляе на экзатычны востраў, з галавой кідаецца ў вір жыцця. Цешыцца сонцам, блакітнай лагунай, пясчаным пляжам, марыхуанай, прыгожай дзяўчынай. Смелы, вынаходлівы, працавіты, ён становіцца сапраўдным героем моладзі, што жыве на востраве. Цудоўны пляж пачынае ўяўляцца юнаку домам, дзіўным раем.

Аднак рэжысёр А. Бойл даводзіць, што рай на зямлі немагчымы: чалавек — агрэсіўная істота. Моладзь у "Пляжы" лічыць свой востраў ідэальным месцам. Калі ў лагуне з'яўляюцца акулы, становіцца зразумелым, што зло нікуды не знікала. І — з сэрцаў таксама, што дазваляе юнакам кінуць на волю лёсу параненага сябра, каб не перашкаджаў сваімі стогнамі рамантычнаму існаванню. І гэтымі думкамі "Пляж" нечакана захапляе больш, чым маляўнічымі пейзажамі, цудоўнымі падводнымі здымкамі, папулярнымі музычнымі кампазіцыямі Mobi, All Saints. Рычард прыехаў на востраў, умеючы падманваць, ненавідзець, і міраж раю хутка знік.

Ідэальнае месца для нашага героя — Данілы — гэта Масква. Як кілер, тут ён як рыба ў вадзе, а як правінцыял — нібыта ў Дыснейлэндзе. Адзін з самых камічных эпізодаў у "Браце-2", калі Багроў трапляе ў тэлецэнтр Астанкіна і бачыць на свае вочы тамтэйшых тэлезорак Л. Якубовіча, В. Пельша, І. Дзямідава. А вось старэйшы брат Данілы, якога іграе В. Сухарукаў, увасабляе сапраўднага савецкага чалавека, якому далёкая Амерыка здаецца лепшай краінай у свеце.

Аднак Даніла Багроў адкрывае, што самае райскае месца на зямлі на самай справе падзелена на этнічныя тэрыторыі, што "белым" лепш не трапляць у раёны "чорных", а "маскалям" — да ўкраінцаў. Вандруючы па Штатах, Даніла ўвесь час паўтарае знакаміты вершык пра Радзіму. Адным словам, што амерыканцу добра, то рускаму — смерць. Прынамсі, старэйшы брат Данілы згінуў у той Амерыцы.

Жыццё падобна на камп'ютэрную гульню сцвярджае сучасны кінематограф. Калі Багроў шукае сваіх ворагаў, камера, як у камп'ютэрнай гульні, рухаецца ў нагу з героем. Нягледзячы на тое, што Рычард, як быццам, збег ад цывілізацыі, ён становіцца персанажам новай камп'ютэрнай забаўкі. На імгненне на экране ўзнікае яго камп'ютэрны вобраз: юнак жвава крочыць па тэрыторыі вострава. І мэта абодвух герояў — знішчыць. Даніла страляе ў кожнага, хто перашкаджае ягонай праўдзе. Рычард спрыяе забойству ўсіх, хто імкнецца трапіць на яго востраў.

...Здаецца, прайшоў той час, калі кінематограф даваў чалавеку надзею. Даніла Багроў вяртаецца ў Расію, каб зноў забіваць. Рычард — у Амерыку, каб зноў марнаваць час ля камп'ютэра. Надзеі на лепшае няма. І я не ведаю, што чакае герояў нашага часу ў будучым. Выходзіш з кінатэатра ў роспачы.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: кадры з кінафільмаў "Пляж", "Брат-2".*





# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**У мінулыя выхадныя прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка на ўрачыстасцях да Дня Рэспублікі прамаўляў па-беларуску. Прамаўляў, прынамсі, з фанетычнага пункту гледжання, выдатна. Яно і не дзіўна — з такім акцэнтам! Слухалася і з задаальненнем думалася, што вось гэтак жа і павінна было быць з таго самага 1994-га, і здавалася нават, што першы прэзідэнт Беларусі прамаўляў нашай моваю і ўчора, і год таму. Карацей, заўжды. Здавалася, стаяў бы зараз у кабіне для галасавання, то паўтарыў бы выбар народа. Вось што мова беларуская, родная, рабіць можа...**

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

Жыве БТ, не перастае здзіўляць — значыць, жыве. У спецыяльным выпуску "Панарамы" (больш навінаў ні ўнутры краіны, ні ў свеце проста не было) да ўрачыстасцяў 3 ліпеня святкаванне гэтай даты ў цэнтры сталіцы асвятлялі ажно 6 тэлежурналістаў. А мо і болей, мо каго з тых, хто высоўваўся з мікрафонам на экран, не ўгледзеў, не ўлічыў. Прычым гаварылі і паказвалі яны ўсе амаль адно і тое ж. Па-савецку.

*10 ліпеня, панядзелак, 15.30* — мастацкі фільм "Песня пра зубра", да 530-годдзя з дня народзінаў Міколы Гусоўскага і паводле ягонай аднайменнай паэмы.

*11 ліпеня, аўторак, 15.15* — дзіцячы тэлеспектакль "Голы кароль" паводле казкі Шварца.

*12 ліпеня, серада, 16.25* — "А музыка гучыць", гэтая перадача раскажа аб тым, як праходзіў фестываль камернай музыкі "Музы Нясвіжа".

*15 ліпеня, субота, 15.45* — "Тэлевізійны дом кіно" пра міжнародны фестываль "Залаты Віцязь-2000".

*15 ліпеня, субота, 17.05* — "Арт-клуб" віншуе з юбілеем артыстку Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Ніну Карнееву.

Не, у дэпрэсію беларускае грамадства анічым не ўвагнаць. Тэлебачанне не дасць. На БТ умеюць займацца слоўным псіхатрэнінгам аптымізму. Напрыклад, ва ўжо згаданым святочным спецвыпуску наладзілі "пяцімінутку шчасця". Гэта значыць, узнёсла распавядалі пра відавочна-неверагодны шматсферны росквіт краіны. Ах, у якой мы з вамі дзяржаве жывём, я вам скажу! Нават хацелася, трохі перайначыўшы вядомы анекдот, крычаць: "Хачу ў Беларусь!" Праўда, ёсць адна драбяза, пра якую так, між іншым, давялі напрыканцы "пяцімінуткі", маўляў, шмат па якіх сацыяльна-эканамічных паказчыках мы не горшыя, а то і пераўзыходзім Еўропу, а адзінае, у чым адстаём, дык гэта ў памерах даходаў на душу. Карацей, аптымістамі трэба быць.

**РАМПА**

У звычайны для лета перыяд тэатральных вакацыяў, мясцовай тэатральнай альтэрнатывай гастрольным спектаклям замежных тэатраў (да прыкладу, імя Ленсавета) у ліпені будуць апошняя сезонная пастаноўка балета ("Эсмеральда", 7-га) і "ART" — Малога тэатра (13-га ў памяшканні Купалаўскага).

**ВЫСТАВЫ**

*З 4 ліпеня* — у Музеі сучаснага мастацтва праходзіць выстава фотаздымкаў пра гісторыю беларускай сталіцы.

*7 ліпеня, 17.00* — у дзень народзінаў мастака Марка Шагала ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрыццё выставы "Прысвячэнне Парыжу". Працаваць выстава будзе ажно да самай восені.

## "Літаратурны экспрэс Еўропа 2000"

З 5 чэрвеня па 16 ліпеня 2000 г. на мяжы стагоддзяў адбудзецца адна з буйнейшых грамадскіх і культурных падзей, прымеркаваных да сустрэчы новага тысячагоддзя, — міжнародны праект "Літаратурны экспрэс Еўропа 2000".

Больш 100 літаратараў з 43 краін Еўропы здзяйсняюць шасцітыднёвую паездку па маршруце, які пройдзе ад Партугаліі праз Іспанію, Францыю, Бельгію, Германію, Польшчу, Літву, Латвію, Эстонію, Расію і Беларусь. У 20-ці гарадах маршруту "Літаратурны экспрэс" зробіць прыпынкі, каб у рамках публічных чытанняў, дыскусій і буйных культурных святаў абмеркаваць праблемы агульнаеўрапейскай будучыні, моўнай і літаратурнай разнастайнасці Еўропы.

**9 ліпеня** 2000 года а 16-ай гадзіне ўдзельнікі "Літаратурнага экспрэса Еўропа 2000" завітаюць на радзіму Янкі Купалы ў Вязынку (Маладзечанскі раён). З гэтай нагоды адбудзецца тэатралізаванае свята "Беларусь праз межы і стагоддзі". Сярод рознагалосся літаратур Еўропы годна загучыць і мова Янкі Купалы.

Шчыра запрашаем усіх жадаючых 9 ліпеня а 16-ай гадзіне на сустрэчу з пісьменнікамі ўсёй Еўропы ў Вязынцы на вялікае свята стагоддзя.

**10 ліпеня** адбудуцца сустрэчы з пісьменнікамі Еўропы ў літаратурных музеях і галоўных бібліятэках Мінска. Заключны вечар пісьменнікаў Еўропы пройдзе ў Доме літаратараў 10 ліпеня а 18-ай гадзіне.

Раніцай **11 ліпеня** "Літаратурны экспрэс" накіруецца ў Брэст.

Гэтая акцыя пісьменнікаў Еўропы знаходзіцца пад патранажам Еўрапейскай рады, Еўрапейскай камісіі, ЮНЕСКА і Міжнароднага Саюза чыгункі UIC.

З беларускага боку праект "Літаратурны экспрэс" здзяйсняюць Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарвыканкам, Саюз беларускіх пісьменнікаў пры ўдзеле Міністэрства замежных спраў РБ, Дзяржкамітэта па друку, Брэсцкага аблвыканкама, а таксама шматлікіх арганізацый і ўстаноў Беларусі.

Удзел нашай краіны ў гэтым унікальным праекце засведчыць, што беларуская літаратура валодае не меншым патэнцыялам, чым іншыя еўрапейскія літаратуры. У трэцяе тысячагоддзе нам ёсць што прыўнесці са скарбніц чалавечага духу.

Гэта будзе адным са шляхоў Беларусі ў Еўропу, які дапаможа нашай Бацькаўшчыне заняць "свой пачэсны пасад між народамі", каб разам з усім светам крочыць у будучыню, у новае тысячагоддзе".

**Літаратурны музей Янкі Купалы**

Міхась МІРАНОВІЧ

## Фрашкі

### Чаго баяцца?

*Суседу*
*Дзед Нупрэй прызнаўся,*
*Што смерці ён*
*Раней баяўся.*
*— А як навокал*
*Азірнуся,*
*Дык нашага жыцця*
*Баюся!..*

### Выключэнне

*— Вядома*
*Ісціна такая:*
*"Нішто бясследна*
*Не знікае..."*
*— Я згодна,*
*Толькі, мой харошы,*
*Адно ёсць выключэнне —*
*Грошы.*

### Прычына

*Пытанні ў жыцці нам*
*Заўжды назаляюць,*
*Адно з іх*
*Даймае мяне:*
*Чаму пры разводзе*
*Прычыну пытаюць,*
*Тады ж, калі жэнішся —*
*Не?..*

### Сучасныя песні

*Ад песень сучасных*
*Звініць у вушшу,*
*Глядзіш —*
*І пачнуцца хваробы!..*
*Раней песні бралі цябе за душу,*
*А сённяшнія —*
*За вантробы.*

### Голая праўда

*Запала вось такая думка*
*Ў голаў,*
*І не дае ні есці мне,*
*Ні спаць:*
*Тады, калі бывае*
*Праўда голай —*
*Лягчэй за ўсё*
*Нябогу згвалтаваць.*

### Кара

*Сваёй апалы*
*Не знайду прычыну:*
*І чым цябе я,*
*Божа, раззлаваў?*
*Я ўзнагароду папрасіў —*
*Жанчыну,*
*За што ж ты кару —*
*жонку —*
*Мне паслаў?!*

### Нясі свой крыж

*За цуглі*
*Наравісты лёс бяры,*
*Трымай уладу*
*Над самім сабой,*
*І лепей сам нясі*
*Свой цяжкі крыж,*
*Чым панясуць яго*
*Перад табой.*

### На цвярозы розум

*Усё на свеце*
*Можа наш народ,*
*Калі што робіць*
*На цвярозы розум.*
*І мог бы жыць*
*Без тлуму і згрызот.*
*Ды ці бывае*
*Ён калі цвярозым?..*

### Вясковая тэма

*Да вёскі ў нас —*
*Святое пачуццё,*
*І вершаў ёй*
*Прысвечана без меры.*
*Але чамусь*
*Вясковае жыццё*
*Паэты славяць*
*Ў гарадской кватэры.*

### Місіс і міска

*Міс — гэта проста*
*Незамужняя дзяўчына.*
*А місіс — жонка.*
*Разабраўся, дружа?*
*А міска — тое,*
*Што, як ёсць прычына,*
*Дык місіс б'е*
*На галаве у мужа.*

### Хто пачаў першым?

*Бацькі дзяцей*
*Заўжды не разумелі,*
*Бацькоў — дзяды,*
*А прадзеды — дзядоў...*
*Да тых дабрацца б*
*(Каб іх чэрці елі!),*
*Пачаў хто першым*
*З даўніх тых гадоў!..*



*Інтэр'ер канца XX стагоддзя.*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

## Дыялогі

— Дарагая, ты помніш тую ноч на дарозе пад рамантычнымі зорамі?

— Пытаешся! Я тады ледзьве давяла цябе п'янага дадому.

❑

— Ты, я чуў, атрымаў прэмію? Можа, вып'ем з такой нагоды?

— Не.

— Грошай шкада?

— Цябе...

❑

— Дайце мне, калі ласка, што-небудзь з твораў Леніна.

— Навошта?

— Каб зразумець, з чаго мы смяёмся.

❑

— Чаму не заводзіш сям'ю?

— Баюся. Памру — колькі слёз і клопату прынясу ёй...

❑

— Ты чаму не чытаеш раманы?

— Часу шкада.

— Чытанне ж развівае і пашырае кругагляд.

— Тое самае робіць і жыццё.

❑

— Ты як ставішся да яднання народаў?

— Залішні інтэрнацыяналізм спараджае сумненне ва ўласнай нацыянальнасці.

— ...

❑

— У адной п'есе Бернарда Шоу гераіня сцвярджае, што яе не запалохаеш, бо яна была школьнай настаўніцай.

— Нас — таксама. Бо мы — беларусы.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Хто цяпер піша чарнілам? Ужо і на машынцы друкаваць не модна. Вялізныя магчымасці ў аргтэхніке, ёсць рэзервы. Ды нешта не відаць камп'ютэрных шэдэўраў. Можа, павольныя пёры дапамагалі старым фантазёрам?

●

І магазінныя хвасты каб выказваць эмоцыі, меркавалі сабакі.

●

— Няма чаго гаварыць пра тое, чаго няма? А чаму? — не мог зразумець нуль.

●

Чарнобыльская вёска з вясны: адны пранумараваныя камяні.

●

— Калючы кактус і "голены" кактус. Хай адзін дэ-юрэ, а другі дэ-факта. Але ты, мой гаротны, чаго з калючага дроту?

●

Пустыя месцы? А частата, граніцы? У вайскоўцаў пра генералаў усё таямніца.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ —** *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 6.07.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3426.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12